# ЗЬМЕСТ

# СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦТВА

Вільня Чэрвень 1935 г. № 1 (15)



Апошні 14 нумар „Студэнцкай Думкі“ вышаў у восені 1930 году.

За гэты час у радох беларускага студэнцтва адбылася глыбокая крысталізацыя паглядаў—крысталізацыя аналёгічная да той, якая адбываецца ў перадавой часьці нашай вёскі.

Далейшы характар эканамічна-культурнага гаспадараньня польскай дзяржаўнасьці на землях Заходняй Беларусі, падзеі апошніх гадоў у Беларусі Савецкай, поўнае ідэолёгічнае банкруцтва польскай, маскоўскай, літоўскай і іншых ар'ентацыяў—былі тымі дзейнікамі, якія прысьпяшылі гэтую псыхічную перабудову.

Стала ясным, што нам можа быць толькі адна ар'ентатацыя—ар'ентацыя на сілы і патрэбы народных масаў.

І ў беларускай студэнцкай сям'і наступіла моцнае ідэолёгічнае сцэмэнтаваньне. Паступова выкоўваецца ясны, цьвёрды пагляд на сучаснае жыцьцё, на свае задачы.

Але дзе нешта куецца, там мусяць сыпацца абломкі.

Тыя, псыхіка якіх ня здолела яшчэ вырвацца з усяго лякайска-нявольніцкага багажу, каторым нас праз цэлыя стагодзьдзі абдзяляў Захад і Ўсход—адпалі, муселі адпасьці.

Адпалі і тыя, якіх пацягнуў зводны блеск юдавых срэбнікаў.

Рассталіся мы з імі бяз жалю, з пагардай.

Наш адноўлены часапіс будзе служыць далейшай крысталізацыі сьветагляду сучаснага студэнцкага пакаленьня, сьветагляду, які мусіць быць адбіцьцём соцыяльна-нацыянальных дамаганьняў і патрэб нашай вёскі.

Разам з працай у біблїётэках, сэмінарыях, лябораторыях, клініках,—мусім гатавацца, вырабіцца да канкрэтнай народнаграмадзкай працы.

Голас у часапісе павінна забіраць ня толькі віленскае беларускае студэнцтва, але і тыя, якіх палітычныя абставіны раскідалі па ўсей Эўропе, якія вышэйшую асьвету мусяць здабываць за межамі бацькаўшчыны, у ўнівэрсытэтах Варшавы, Рыгі, Коўна, Прагі, Бэрліну, Рыму, Льежу і мн. інш.

Толькі малой жменцы беларускай моладзі ўдалося прабіцца да ўнівэрсытэтаў праз клясавае рэшата пануючага грамадзкага ладу і нацыянальна-палітычных адносінаў.

Тым большыя ляжаць на нас абавязкі.

На жыцьцё глядзім бяз ілюзыяў, цьвяроза. Бачым, разумеем і адчуваем усю глыбіню трагізму палажэньня нашай бацькаўшчыны. Але дарма шукаць у нас безнадзейнага пэсымізму. Разьвіталіся мы з ім даўно. Мы добра чуем, як моцным, пругкім пульсам б'е ў народных нетрах нацыянальна-соцыяльнае жыцьцё.

І сьпешна закончыць нам працу над сабой, каб цясьней зьліцца з родным карэньнем, каб стаць там сталёвым злучвом, жалезнай авангардай, якая пасыўную энэргію мас патрапіць скалыхнуць да грамадзка-творчай працы і чынаў.

Старое пакаленьне нашай інтэлігенцыі ўжо моцна ідэолёгічна падтрухлела і на мейсца іх мусім ісьці мы — маладыя, мы — новая зьмена. Новая ня толькі ў часе, але і ў падходзе да грамадзкіх зьяў, да грамадзкай працы.

Гэта — гістарычная канечнасьць.

# Не бядуй!

Не гаруй, што сягоньня нам кепска жывецца,
Адкінь смутак, што сэрца акутаў тваё,
Бо яшчэ шчасьце на кліч наш у жыцьці адгукнецца,
Бо яшчэ сілы кіпяць, яшчэ ў перадзе ўсё!
Калі ноч аблягла зямлю чорным крылом,
На жыцьцё наша кінуўшы цёмную цень, —
Не смуціся мой брат! зыйдзе ноч — зажывём!
Разьвіднее для нас і для нас прыдзе дзень!
Толькі сэрца сваё закалі на агні,
Што пылае ў грудзёх, ў горы сілы ўзгадуй,
Не спалохаюць нас тады цёмныя дні!
Заўтра наш будзе дзень — толькі ты не бядуй!

N. N.

---

ЯЗЭП БУРАК.

# Мой бацька.

мой бацька ізноў безработны.
кожны дзень ён выходзіць і ў цёмных панадворках
шукае часовае працы.
часам пілуе дровы або замятае вуліцу
і тады прыносіць нам хлеба.
а ў ночы крычыць штось і кашляе кроў'ю.
часам гляджу на яго і крычу я
бацька ня трэба
сядзь з намі на нарах
мы дзягамі падцісьнем жываты
і жыцьцё праклянём каторага сталі ахвярай.
тады ў вачох яго бачу я блескі як неба
ён іх рукою дрыжачай страсае комічна
а пасьля
прыносіць
нам
хлеба.

С. САРОКА.

## Ці ўстанеш ты?

Ці чуеш ты,
як молат б'е,
свабодзе гымн пяе і кліча ўсьцяж цябе
на веча — сход сьвяты!
Ці чуеш ты,
як молат б'е,
як мерна ён куе няўхільну сьмерць жальбе!
Ці бачыш ты
крывіцкі сьцяг,
вызвольны белы шлях, крывіцкіх дзей працяг,
народу гнеў сьвяты!
Ці бачыш ты
крывіцкі сьцяг,
як край зігціць ў агнях, як сэрцы б'юць ў грудзях!
Ці верыш ты —
народ ідзе
і хутка ўжо ўзыйдзе, нясучы сьмерць бядзе,
на ўласны шлях сьвяты!
Ці верыш ты —
народ ідзе,
наперад ўсьцяж ідзе па ўласны свой надзел!
Ці ўстанеш ты
нарэшце раз
ў гарачы жніва час, калі цябе якраз
чакае сход сьвяты!
Ці ўстанеш ты
нарэшце раз,
пакуль сярод прыкрас жыцьця ў дрыгве ня зграз!

---

## На бацькаўшчыне.

Даўней
лес пануры стаяў
і аб нечым шаптаў,—
думаў думу сваю векавую.
Цяпер
лес чужынцы сякуць,
ў край далёкі вязуць,—
пакідае зямлю ён радную.

N. N.

ЯЗ. БУРАК.

# Яе вочы.

## I.

Заўсёды здараецца гэтак. Вочы дзяўчыны зачаравалі душу хлапца.

Быў вечар і ў сьвятле вялікіх электрычных ліхтароў ламаліся густыя, бліскучыя каплі вясеньняга дажджу. Стоячы ў браме, з нуды чаканьня, лянiва азіраўся навокал іронізуючы паглядам моцна сапеўшага таўстога купца, зьбянтэжаную яго зрокам модную анэмічную паненку з poste-restante і шчыльна да сябе прытуляны, сабою толькі заняты, sui generis адзіны асаблівы экзэмпляр малжонкаў.

І тады раптам пабачыў яе вочы.

Дзяўчына стаяла ў глыбі брамы і задуманым зрокам сьлядзіла за яснымі пукамі, што на бліскучы брук двара кідалі сьветлыя плямы вакон.

Павольным рухам павярнула твар у яго старану і—калі вочы яго спаткаліся з туманна-мройчывым паглядам яе сініх вачэй—пачуў, як дзіка пачало біцца яго сэрца, як загар, быццам летняга сонца, ударыў у твар. Як смагнучы ў пустыні падарожны сваім паглядам піў ясны блакіт яе туманна-задуманых вачэй. У хвілёвым забыцьці—народжаным крыкам душы—са сьвежых міражаў высьцілаў перад ёю дарогу кветак. Як жрэц сонца курыў кадзіла ўзлёту перад усходзячым сьвяцілам.

З брамы вышлі разам. Загледжаныя толькі ў сябе, заслуханыя ў мэлёдыю сваіх радасных галасоў, ня чуючы крапчэўшага дажджу і ня бачучы іранічнага пагляду гарадавіка,—як дзьве знайшоўшыя сябе плятонаўскія душы, ішлі ў ясных блесках адбітага ў вадзе сьвятла.

Дзяўчына звалася Віктай. Апрача вачэй яна мела раскошныя, прыгожа скроеныя вусны і старую маці, што гасьціла ў другім месьце ў крэўных. Яна працавала тэлефоністкай у мясцовай агенцыі, лятуцела ў вольных хвілінах аб вялікім каханьні ў стылі Юліі Шэкспіра і чакала на свайго каралевіча сноў. Цяпер яна мае 20 гадоў і рабую прыяцельку Дануту, любячую часта мяняць капялюшы, а яшчэ часьцей сваіх ухажораў.

Усё гэта свабодна расказвала яна, прабіваючыся з ім разам сярод рознакалёрнага тлуму, які пасьля дажджу высыпаў на вуліцу.

У цені брамы, абапёрты аб шэры мур, ціхім нясьмелым голасам прасіў нечага худы абарваны чалавек і з абарваных рукавоў працягваў касьцістую руку, прычым вочы яго пакрывала імгла жалю. Худая жанчына з дзіцём на руках заступіла ім дарогу доўга і горача гаворачы аб нечым. Чагосьці нездаволенае плакала дзіцё.

Але яны ня бачылі і абарванага жабрака, і прычытваўшай перад імі кабеты і калёрнай таўпы, што залівала вячэрнія вуліцы, бо ішлі дарогай кветак, створанай буйным выабражэньнем расхвалёванай экзотыкі.

Раскошна сьмяяліся сінія вочы дзяўчыны, цалавалі ясны твар вочы хлапца, а дўшы абоіх, выкінутыя з цесных арбіт вуліцы ў бязмежны прастор ночы, пялі ўпойваючы ціхі гымн настрояў.

Была вясна, і ў гарадзкім садзе разьцьвітаў першы куст агніста-крывавае рожы, а ў малой сажалцы, у срэбным сьвятле месяца плёскаліся рыбы.

Абапёртыя аб балюстраду сьлядзілі за ігрывымі блескамі іх лускі і ўглядаліся ў адбіцьці сваіх твараў. „Кахаю цябе!“ — кідалі сьмелае прызнаньне вочы хлапца, прымаючы як нагароду цёплы, радасны сьмех яе плывучага твару.

Урачыста шумелі старыя паважныя дубы і хрыплым сьмехам здалёк залівалася трашчотка начнога стоража.

II

Працьвілі агніста-пурпуровыя рожы і больш туманнымі сталіся ліхтары места—калі ізноў прышоў да яе.

Ціха схіліла галаву яму на плячо і мёртвым голасам кідала прад сябе словамі:

„Ты ня ведаеш, як цярпела я, пакуль сяньняшні вечар ня вызваліў мае думкі, пакуль ня прышоў ты і паглядам вачэй сваіх неўваскрасіў мяне да жыцьця. Я сама ня ведала, што так моцна кахаю цябе. У той вечар, калі першы раз спаткаліся нашы вочы, калі на сэрцы лягло нешта таёмна-раскошнае, а думка хацела ўзьляцець над шэрай масай будынкаў і лунаць у цёмным прасторы ночы—я ня ведала яшчэ гэтага.

Ня ведала і тады, калі ішла сьледам за табою па цёмных завулках, хочучы пазнаць твае дарогі і прычыну твае адсутнасьці тут. Калі адначасна сэрца тужліва ныла, а разсудак крычэў: „ня йдзі, будзь сабою... ня йдзі!“ І толькі сяньня, цяпер, пачуўшы крокі на сходах я зразумела, што гэта ты і што я люблю цябе. Цяпер разумею і не баюся гэтага пачуцьця, і голас унутры нічога ня гаворыць мне. Ведаю, што люблю і нікому не аддам цябе“.

Пукі сьвятла ламаліся ў блакіце вачэй. Ярка пылаў кармін вуснаў і толькі срогі асцэтычны воблік сьвятога з кута пакою кідаў рэзкі дысонанс у атмосфэру ўражаньняў.

Але вочы яго не разьбягаліся за ігрывымі блескамі рассыпанага сьвятла. Яны знаходзілі свой пункт апоры — яе вочы, і ня выходзілі ўжо за арбіту сваіх хаценьняў.

„Вікта, — казаў ён, — ці разумееш ты чар першых спатканьняў? Хвіліну, калі сьвежа наляцеўшае захопленьне разьбівае істоту на рад, безканечна ў рытм нязнанай мэлёдыі вібруючых, частак.

Калі вочы гараць сьмелым прызнаньнем ласкі і калі хочацца пралётны чар яе захаваць на сьмяротнае заўтра“.

„Кажы яшчэ“ — прасіла яна.

„Нашто, — ціхі голас змагаўся з напорам эмоцыяў, — нашто словамі пазваляць на профанацыю пачуцьцяў. Пазволь мне глядзець у вочы твае і не гаварыць нічога, У сьветлым моры тваіх вачэй

я знаходжу асалоду і забыцьцё дзён — я знаходжу там сябе. Ніякія словы дакладна не перададуць гэтага, а кожная проба будзе яшчэ адным шаленствам, кінутым на аўтар пачуцьцяў. Люблю цябе і баюся паўтараць памылкі вякоў, бо не хачу ў шэрай будзёншчыне губіць сьведамасьці твайго прызнаньня.

Павеўныя цені лажыліся ў загібах крычачых дэсэняў, коўзалі па бліскучых шыбах прычыненых вокнаў, п'яным гымнам шляхотных парываў путалі астачу закраўшагося сумневаньня.

Прыплюшчанымі вачыма, у пераліве імагінацыі, сьлядзілі за іх карагодам. У пралётным агні, імкненьнем неакелзанай радасьці і пякучага болю, згаралі ў шэрую масу зьбітыя атомы душы, а вусны бязьлітасна дзіка ў згараючай чырвані малілі сьвежага задатку непасрэднага пачуваньня.

Тады зразумелі ўсё. І тайну асеньняй імглою спавітага вечара, і нястрыманым прызывам пявучую ласку вачэй і бязпрыкладна грозны, паходам вякоў і гатунку кіпячы крык існаваньня.

І раптам пачалі гусьцець насунутыя цені. Бязбурным парывам уладаньня путалі акружаючыя прадметы, поўзаючы кралі ўзоры каляровых абіцьцяў і крыліся за раптам пароблепыя выступы. Паступова разьнізаныя імкненьнем пачалі зьбліжацца, расьці ўва ўсё абыймаючую хаотычную гаму ўражаньняў, пакуль, не крануўшы апошніх вібруючых тонаў, ня зьліліся канчальна ў магутным акордзе.

### III

Яркія праменьні сьвятла ліліся з-пад сіняга абажуру. Манатонна гутарыў з сабою вісячы гадзіньнік роўнамерна сыгналізуючы жэстыкуляцыю бліскучым колам матача. Было нявыразна тужліва і глупа, а з вісячага партрэту старое бабкі згоршана глядзелі срогія маральныя вочы (на шчасьце, такія вочы яна мела толькі перад об'ектывам).

Працягваючы вузёл галстука ў белы штыўны каўнер, ён спытаўся:

— Колькі табе плачу?

Яна ня ведала—абурыцца ёй, ці заплакаць. А як на зло, люстра знаходзілася далёка і немагчыма было не ўстаючы з месца праступдыяваць адносную міміку твару, каб прыняць адпаведную пастанову. Яна хацела сказаць, што прыемна з ім разам у цені месячнай ночы слухаць пяяньне салаў'я, што ў безканечна цяжкую дарогу можа ісьці з ім, што ў хвіліну адчаю і сумневаньня будзе маліцца за яго,— і адначасна падумала, што гэта будзе новай маной, што вочы яе раскрыюць бязьлітасную праўду, на каторай цяпер пазнáецца і ён. Прытым, заўтра гэтая дурная Данута напэўна будзе хваліцца сьвежа купленым асеньнім капялюшом і пойдзе ў тэагр з сваім новым амантам.

І яна сказала:

— 10 карон.

Глянулі сабе ў вочы і не знайшлі ўжо цёпла-таёмных праблыскаў ласкі. У спакойных вогнішчах, праз прызму сьведамага вылі-

чэньня, пабачылі голы, праўдзівы сэнс быту. Зьдзёртая з прыгожых узораў, слабасьцю духа тканая заслона адкрывала істотныя зарысы вуліцы. Вечар прыносіць тут новыя імкненьні. Адвагай акрываючага змроку, на халодных каменьнях раскідае ён сьведамасьць хвілёвага прызнаньня, посьвістам жорсткае несыці зрывае німб хвараблівых узлётаў з педэсталу выбражэньня, путае свабодным уздыхам парваныя традыцыі страху. Тады карагод постацяў крыецца ў цёмных заломах. Бязсільна ціха ў мутное шкло ліхтарні б‘ецца асірочаны дух Бэатрычэ. У цені брамы Ляўра клянецца „апошнімі“ словамі і курыць танную цыгарэтку. Моўчкі вывяртае кішані ў пагоні за дробнымі, стройны падхмеляны Ромэо.

Адна двухкаронная монэта аказалася фальшывай. Ударáная аб стол кожны раз выдавала кароткі хрыплы гук і сьціхала, быццам саромячыся свае ненатуральнасьці.

Ціха, як быццам шкадуючы нарушанай тайны, скрыпелі пад нагамі сходы.

На вуліцы яркія пукі сьвету кідала электрыка і разносіўся сільны голас малога газэтчыка. Ідучы, як непрытомны, гэрой дня пачуў раптам, што наступіў некаму на нагу і тут-жа перад сабою пабачыў нэрвовы твар пакрыўджанага.

Інтуіцыйна зьняў капялюш:

— Выбачце, грамадзянін!

Але грамадзянін быў злосны. Ён меў на ўтрыманьні жонку і сяньня плаціў рахунак за трэці строй у гэтым сэзоне.

— Любоў гэта скарб, — бо каштуе нам дорага.

---

**P. S.** У гэтым мейсцы аўтар просіць выбачэньня ўсіх тых, якія цярпліва дачыталі да канца, за надужыцьцё і, магчыма, самавольнае папутаньне і ачарненьне фактаў. Магчыма, што было інакш. Ён, як джэнтэльмэн, мог ня пытаючы яе выказаць сваю ўдзячнасьць і выхаваньне сыстэмай падаркаў. Яна-ж таксама ня была змушанай вымаўляць прыкрую (г. зн. смешна малую) суму дзесяці карон. Магла зажадаць прыгожую вілю ў францускай Рыв‘еры, або стылёва выкананы яхт. Магла таксама прасіць „Сэрца Ўсходу“ і цэлы рад іншых знамянітасьцяў з найбольш паважанае гэнэрацыі... брыльянтаў. Апошні спосаб быў-бы зусім добры і бязгрэшны, як ня колідуючы з г. зв. маральнасьцю і прызваітасьцю, і як усанкцыянаваны ёю ўпрактыцы тварцоў яе — „перадавога“ грамадзянства...

MIKAŁAJ KARALENKA.

# Zachodniaja Biełaruś jak abšar faŭnistyčnych dośledaŭ.

Baćkaŭščynu treba kachać nia tolki pašanaj jaje histaryčnaj prošłaści i kultury, ale taksama kultam jaje pryrody. *M. Raciborski.*

Pryrodaviednyja navuki nie znajšli ŭ biełaruskim hramadzianstvie bolšaha zacikaŭleńnia. Vypływaje heta stul, što pryrodaviednaja praca, jak čysta idealistyčnaja, raźvivajecca dobra tolki tady, kali ludzi nia majuć praz mieru mnoha realnych kłopataŭ. A kab biełaruskaje hramadzianstva nia mieła hetych „kłopataŭ"—skazać nia možna. Musiać jany być chacia-b tamu, što heta hramadzianstva akurat biełaruskaje, a nia inšaje. Kali na „kulturnym" Zachadzie vytvaryŭsia navat typ t. zv. „*Privat-Gelehrter*", u nas, apriača ludziej, što zachoplivajucca krasoj tvoraŭ pryrody, — jakich nia možna-ž ličyć za pryrodnikaŭ, — nichto nie zvaračvaje bolšaj uvahi na hetuju navukovuju halinu. U nas usio daśledžana, usio apisana, my ŭsio viedajem. A kali niešta, niejdzie jašče nia zroblena, dyk heta drabnica — zrobiać heta inšyja! U paru sportu, erotyzmu i pustych palityčnych dyskusyjaŭ trudna i vymahać nakšych pahladaŭ na hetyja rečy. Ale pierachodźma da spravy.

Zadačaj majoj jość pakazać hetta, naskolki Zachodniaja Biełaruś u niekatorych halinach moža jašče być navat nieadkrytaj Amerykaj dla našych vytryvałych Kolumbaŭ.

Vaźmu tut pad uvahu tolki adnu z halin fizijohrafiji — faŭnistyku. Pieradusim — što heta takoje fizijohrafija? Koratka kažučy: heta navuka, jakaja daśledžyvaje pryrodu jakoha niebudź abšaru. Faŭnistyka-ž źjaŭlajecca adnym z jaje addziełaŭ i zajmajecca daśledžyvańniem źviarynnaha śvietu.

I voś, abšar Zachodniaj Biełarusi z hledzišča fizijohrafičnaha vyvučeńnia maje jašče ahramadnyja prorvy. Usiakija viestki z daŭniejšych časoŭ ab faŭnistycy našaj krainy majem dziakujučy pracam prafesaroŭ Vilenskaha Universytetu z časoŭ da jaho zakryćcia carskimi ŭładami. Ale hetyja krynicy siańnia, pry tym vialikim postupie, jaki zrabili pryrodaviednyja navuki za apošnija dziesiatki hadoŭ, faktyčna majuć užo tolki histaryčnuju vartaść. Miascovuju faŭnu paznavałasia tady nastolki, nakolki heta było źviazana z haspadarkaj ci medycynaj, bo daśledžyvańnie faŭny dziela jaje samoj—nia było jašče metaj.

GILIBERT, doktar medycyny ŭ vosiemdziesiatych hadoch XVIII st., byŭ pieršym prafesaram u novastvoranym Instytucie Naturalnaj Historyji i Botaniki ŭ Vilni. Vydaŭ jon svaje pryrodaviednyja spaściarohi ŭ formie

dniaŭnika[1]). Adziny ssytok hetaha dniaŭnika maje nazovu *„Indagatores naturae in Magno Ducatu Lithuaniae“*, dzie znachodzim apisańnie zubra[2]), dosiedy nad nitkavatymi (*Nematodes*) i h. d.

U 1807 h. vychodzie drukam u Vilni JUNDZIŁŁY *„Zoologia krótko zebrana“* u 2-ch tomach. U tuju-ž paru BOJANUS, katory prybyŭ u Vilniu z Darmstadtu (1806), pravodzić rad dośledaŭ nad čerapachami[3]), miakkaciełymi (*Mollusca*), pijaŭkami[4]), zubrom[5]) i inš.

GUSTAV BELKE publikuje ŭ hetym časie niekalki pracaŭ z mastolohiji[6]). I ŭ kancy praf. EICHVALD u 1829 — 1831 hadoch vydaje svaju *„Zoologia specialis etc.“*, dzie na miascovuju faŭnu hladzić u sposab užo bolš sučasny.

Zakryćcio Ŭniversytetu raściarušyvaje navukovyja siły i dalej praca nad faŭnaj Zachodniaj Biełarusi viadziecca palakami i rasiejcami nierehularna, sporadyčna.

Ale i ŭ hetym časie pajaŭlajucca davoli vartasnyja zaciemki i matarjały.

Nia spryjali raźvicciu faŭnistyčnych dośledaŭ i hady suśvietnaj vajny. A časy niamieckaj akupacyji (chacia niemcy prabavali eksploatavać hety abšar i z hledzišča navukovaha) nie dali ničoha novaha dla paznańnia našaj faŭny. Tolki adnaŭleńnie polskimi ŭładami Ŭniversytetu ŭ Vilni daje niekatoruju mahčymaść pajšci napierad u hetaj halinie. Ale, nažal i ciapier hetaja sprava nie staić na takoj roŭni, na jakoj musieła-b stajać. Nie biaruć udziełu ŭ hetaj pracy šyrejšyja słaji intelihiencyji i nima siarod jaje taho zrazumieńnia dla pracy daśledčykaŭ nad svajoj pryrodaj, jakoje bačym np. u Niamieččynie, Francyji, Anhliji.

U apošnija adnak hady, dziakujučy natuham praf. dr. J. PRÜFFERA, paŭstaje ceły rad faŭnistyčnych pracaŭ (hałoŭnym čynam z haliny entomolohiji), kidajučych śviatło na našuju faŭnu, ale razam pakazvajučych, što na hetym poli treba jašče mnoha pracy.

Praf. Dr. J. PRÜFFER, praf. Dr. WŁ. SZELIGA-MIERZEYEWSKI, Dr. W. ADOLPH, Dr. M. RACIĘCKA, R. GUTOWSKA, A. MAČIONIS, Mgr. B. OGIJEWICZ, Mgr. K. PETRUSEWICZ i Mgr. J. WENGRIS — heta ciapierašnija, a Doc. Dr. J. BOWKIEWICZ, Dr. J. FARBOTKO, Dr. Z. FEDOROWICZ, Dr. H. JAWŁOWSKI, Dr. S. LIŚKIEWICZ i Mgr. M. ZNAMIEROWSKA-PRÜFFER—heta faŭnisty z bliskich nam hadoŭ, jakija pracujuć ci pracavali na abšary Zachodniaj Biełarusi.

* * *

Ahlad dahetulašniaha stanu dośledaŭ nad paasobnymi klasami (*Classis*) źviaroŭ pačniom ad najlepiej arhanizavanych, značycca sysunoŭ (*Mammalia*).

[1]) U 1781 h.
[2]) „Observationes de bisone lithuanico“.
[3]) Anatomija eŭropejskaj čerapachi (pałacińsku), 2 tamy, Vilnia 1819—1821.
[4]) Pisaŭ ab anatamičnaj budovie lekarskaj pijaŭki.
[5]) De Uro nostrate ejusque sceleto commentatio Nova Acta Physico-Medica Academiae Caes. Leopoldino-Carolinae Naturae curiosum. T. 13. č. II. u 1827 h.
[6]) Np. Mastologja czyli Historja Naturalna zwierząt ssących, 1847—1850. Wilno.

Sysuny ŭ nas jašče nia apracavanyja tak, jak jany apracavanyja ŭ krajoch Zachadu. Pracy JUNDZIŁŁY, BELKE, EICHVALDA i inšych pryrodnikaŭ XIX st. niedakładnyja, časta padajuć niepraŭdzivyja danyja, hrešać niedachopam samadziejnaści ŭ aŭtaraŭ, i tamu źjaŭlajucca niapeŭnymi. Z naviejšych daśledčykaŭ taksama nichto nie zacikaviŭsia našaj faŭnaj i tolki *mikromammalia* (drobnyja sysuny) Vilenščyny ŭžo apracavanyja MAČIONISAM [7]. Z bolšych sysunoŭ—tolki naš zubr maje vialikuju i hruntoŭnuju litaraturu [8]. Jak z hetaha bačym, treba jaknajskarej bracca za źbirańnie matarjałaŭ i apracavańnie hetaj klasy. Praca takaja dała-b vielmi cikavyja vyniki.

Našyja ptuški (*Aves*) znajšli bolšaje zacikaŭleńnie ŭ starejšych daśledčykaŭ. Pisali ab ich TYZENHAUZ, TACZANOWSKI; ale i hetyja pracy ciapier małoha značeńnia. Kali naahuł možna havaryć ab fizijohrafiji ŭ henuju paru, dyk jana palahała tady na inventaryzacyji hatunkaŭ, na skatalahavańni jaknajbolšaj ich kolkaści. I tamu nima ŭ ich dakładnych viestak ab miescy znachodki časie i inšych danych, tak važnych dla siańnia pracujučaha fizijohrafa. Naviejšych pracaŭ ab našaj avifaŭnie, viedzienych systematyčna, nima. A było-b vielmi cikavaj spravaj apracavańnie Zachodniaj Biełarusi z hetaha hledzišča chacia-b tamu, što možna tut znajści hatunki typovyja dla paŭnočna-rasiejskaj ci sybirskaj faŭny, katoryja vandrujuć sporadyčna na poŭdzień i zachad.

Ab našych paŭzunoch (*Amphibia*) i hadach (*Reptilia*) majem krychu bolšuju litaraturu. Pisali ab ich JUNDZIŁŁ [9], EICHVALD [10], AFANASJEV [11], MICHNIEVIČ [12], BOBROVSKIJ [13], ZIELINSKIJ [14] i BRAŬNER [15].

Z ciapierašnich herpetolohaŭ [16] — FEDOROWICZ [17], MIERZEYEWSKI [18] i VIERA UŁASIEWICZ [19]. Mnohija z hetych pracaŭ pierastareli i siańnia nia

[7]) Praca tymčasam znachodzicca ŭ rukapisie.

[8]) Vide: J. Sztolcman. „Żubr jego przeszłość i przyszłość". Warszawa 1927. Raździeł biblijohrafičny.

[9]) Jundziłł. Zoologia krótko zebrana. Wilno 1807.

[10]) Eichvald E. Zoologia specialis etc. Wilno 1831. Tom 3-ci.

[11]) Afanasjev D. Matierjały dla gieografii i statistiki Rossii. Kovienskaja gub. Pieciarburh 1861 h.

[12]) Michnievič A. F. Kratkij očierk carstva žyvotnych. Pam. Knižka Kovienskoj gub. na 1862 god.

[13]) Bobrovskij P. Matierjały dla gieografii i statistiki Rossii. Grodnienskaja gub. Pieciarburh 1863. Pryłoženije. Pieciarburh 1864.

[14]) Zielinskij J. Matierjały dla gieografii i statistiki Rossii. Minskaja gub. Pieciarburh 1864.

[15]) Brauner A. Dritte vorläufige Mitteilung über Reptilien und Amphibien der Suwałk—Mińsk—Podolsk—Tschernichow—Cherson. Zapadn. Novoross. Obšč. Jestiestvoisp. T. 27. Odiessa 1906.

[16]) Herpetoloh—toj, što zajmajecca daśledžyvańniem paŭzunoŭ i hadaŭ.

[17]) Fedorowicz Z. Płazy i gady na Litwie. Rocznik Tow. Przyj. Nauk w Wilnie 1918.

Toj-ža—Materjały do herpetologji Litwy i Rusi Białej. Pamiętnik Fizjograf. Tom 25. Warszawa 1918.

[18]) Wł. Szeliga-Mierzeyewski. Płazy i gady okolic Wilna. Prace Tow. Przyj. Nauk w Wilnie. T. I. 1924.

[19]) Toj-ža i Wiera Ułasiewicz. Płazy i gady pow. Mołodeczańskiego. Triton intermedius nov. for. Ibid. T. VI. 1931 r.

možna ŭžo brać ich pad uvahu. Z naviejšych-ža, pracy FEDOROWICZA majuć niekatoryja zahany, a MIERZEYEWSKAHA i UŁASIEWICZ abymajuć tolki nievialiki abšar Vilenščyny. Cikavaj spravaj jość znachod miašanca (u Maładečanskim paviecie), paŭstaŭšaha z skryžavańnia samca *Triton cristatus Laur.* i samicy *T. vulgaris L.* apisanaha jak *Triton intermedius* [19]), bo, jak viedama, miašancy siarod chvastatych paŭzunoŭ spatykajucca vielmi redka [20]). Taksama cikavaj jość znachodka ŭ Zachodniaj Biełarusi (u Niašvižy) Dr. FEDOROWICZAM [21]) žaby *Rana agilis*, što značna pavialičyvaje miežy jaje pašyreńnia na poŭnač [22]) i tamu pažadanymi byli-b šukańni ŭ hetaj spravie i ŭ inšych miascovaściach. Jak bačym z hetaha, naš kraj z herpetolohičnaha hledzišča mała dašledžany i pry ščyrym zacikaŭleńni moža dać nam mnoha miłych niespadzievak.

Rybami (*Pisces*) nakolki mnie viedama, — chacia jany i majuć vialikaje haspadarčaje značeńnie, — nichto na našym abšary adumysłova i systematyčna nie zajmaŭsia. Praŭda, naahuł viedajem jakija hatunki ŭ nas žyvuć, ale adnosna ich pašyreńnia, času i ŭmovaŭ u jakich razmnažajucca, jość jašče mnoha nia vyjaśnienaha.

*Bryozoa* zusim u nas nie daśledžyvalisia i nia viedajem ani ab kolkaści vystupajučych u nas hatunkaŭ, ani ab charaktary pašyreńnia ŭ suviazi z roznymi asablivaściami asiarodździa, ab indyvidualnych, sezonnych fluktuacyjach i h. d.

Miakkaciełyja (*Mollusca*) z našaha abšaru amal zusim nie daśledžanyja, z vyniatkam niekatorych miascovaściaŭ u Vilenščynie i Pinščynie [23]).

Pavukavatyja (*Arachnoidea*) — taksama da hetaj pary nia byli pradmietam specyjalnych daśledaŭ i tolki ŭ apošnich hadoch zaniaŭsia imi Mgr. PETRUSEWICZ [24]). Adnaka-ž matarjał jašče patrebny z cełaj Zachodniaj Biełarusi, tamu, što hety arachnoloh abniaŭ nievialiki abšar i tolki *Lycosidae.*

Mnohanohija (*Myriapoda*) žbiraŭ u vakolicach Vilni Dr. JAWŁOWSKI [25]). Bolš faŭna hetaj hrupy z našaha abšaru amal zusim niaviedamaja.

Biaskryłymi avadniami (*Apterygogenea*) nichto ŭ nas nia cikaviŭsia, dyk pole da daśledaŭ ahramadnaje, a vyniki napeŭna ŭdziačnyja.

Ab inšych avadniach, jak *Orthoptera, Thysanoptera*, *Psocoidea*, *Mallo-*

[20]) U pracy: Schreiber E. Herpetologia Europaea. II Aufl. Jena 1912, padadzienyja tolki 3 bastardy.

[21]) Fedorowicz Z. Żaba zwinka (Rana agilis Thom) z Nieświeża. Kosmos. Tom LV. Lwów 1931.

[22]) Zhodna z Schreiberam — „Herpet. Europ."—hety hatunak tolki vyniatkova vystupaje na poŭnač ad 50° paŭnočnaj šyryni, a Niašviž lažyć pad 53°15' paŭnočnaj šyryni, značycca na 2° dalej na poŭnač ad Dęblina, jaki dahetul ličyŭsia najdalej vysunutym punktam vystupańnia *Rana agilis.*

[23]) Poliński W. Materjały do fauny malakozoologicznej Królestwa Polskiego, Litwy i Polesia. Tow. Nauk. Warszawa 1917.

[24]) Petrusewicz K. Pogońce (Lycosidae s. lat.) okolic Wilna. Prace Tow. Przyj. Nauk w Wilnie, T. VIII. 1933.

[25]) H. Jawłowski.—Przyczynek do fauny pancerników okolic Wilna. Kosmos. T. LI. Lwów, 1927.

Toj-ža—Notatka o gat. Strongylosoma pallipes Ol. Kosmos. T. L. Lwów 1925.

*phaga, Siphunculata, Plecoptera, Siphonaptera i Rhynchota*—nima da hetaj pary amal nijakich pavažniejšych fizijohrafičnych pracaŭ. A avadni-ž hetyja majuć časta vialikuju vahu ŭ haspadarcy (jak np. *Orthoptera, Thysanoptera, Rynchota*), u medycynie (jak *Siphunculata, Siphonoptera*), ci ŭ inšych halinach praktyčnaha žyćcia. Matarjał časta vielmi lohki da sabrańnia, vialikich koštaŭ na heta nia treba, a idzie tolki ab akuratnaść u źbirańni i zapisyvańni danych, krychu času, pracy pry aznačeńni i vytryvałaści.

*Ephemeroidea, Trichoptera, Panorpatae, Odonata, Lepidoptera, Coleoptera i Hymenoptera* častkova ŭžo apracavanyja palakami, rasiejcami, lićvinami i niemcami, i majuć davoli pavažnuju litaraturu. I tak, *Ephemeroidea* Vilenskaha i Brasłaŭskaha pavietaŭ byli apracavanyja apošnim časam GUTOWSKAJ [26]), a za časoŭ niamieckaj akupacyji sanitarny doktar ULMER, budučy kala Biełavieży, padaŭ niekalki hatunkaŭ zhenul i z-pad Ihnalina.

*Trichoptera* ŭ naviejšych časoch daśledžyvaŭ vyšej uspomnieny ULMER [27]), a ŭ apošnich hadoch Dr. RACIĘCKA [28]); *Panorpatae* — Dr. FARBOTKO [29]), *Odonata* — rasiejec BARTIENJEV [30]), a z palakaŭ praf. Dr. J. PRÜFFER [31]) i Mgr. ZNAMIEROWSKA-PRÜFFER [32]).

Ab lepidopterolohičnaj faŭnie našych ziamiel padajuć bolej ci mieniej peŭnyja danyja EICHVALD [10]), ELLEDER [33]), SLEVOGT [34]), DAMPF [35]), STRAND [27]), HERING [36]), GIEYSZTOR [37]). Praf.Dr. J. PRÜFFER [38]) viadzie doślедy nad vialikimi matylami (*Macrolepidoptera*) ad 1922 h. zvaročvajučy asablivuju ŭvahu na Vilenščynu i Navahradčynu.

[26]) Praca tymčasam u rukapisie.

[27]) Ulmer G., Strand E. und Walther Horn.—Ueber W. Horns litauische entomologische Kriegsausbeute 1916. Entom. Mitteil. Bd. VII. Nr. 7—9. 1918.

[28]) Racięcka M. Chróściki (Trichoptera) północno-wschodniej Polski ze szczególnem uwzględnieniem obszaru wileńsko-trockiego. Prace Tow. Przyj. Nauk w Wilnie. T. VI. 1931.

[29]) Farbotko J. Przyczynek do znajomości wojsiłek północno-wschodniej Polski. Ibid. T. V. 1929.

[30]) Bartienjev A. N.—Odonata Poleskoj i Vilenskoj ekspiedicii (h. 1904?).

[31]) Prüffer J. Z badań nad wileńskiemi formami zalotek (Lencorrhinia). Prace Tow. Przyj. Nauk w Wilnie. T. I. 1923.

[32]) M. Znamierowska. Ważki okolic Wilna. Ibidem.

M. Znamierowska-Prüfferowa. Materjały do znajomości ważek półn.-wsch. Polski. Ibid. T. III. 1927.

[33]) Elleder O. Lepidopterologische Notizen aus Russisch Lithauen, Krankcher's Entom. Jahrb. Leipzig, 1901.

[34]) Slevogt P. Die Grossschmeterlinge Kurlands mit Berücksichtigung Kownos, Livlands und Estlands. Archiv. f. Kurl. Ges. f. Litt. u. Kunst. Mitau, 1903.

[35]) Dampf A. Matierjały k faunie češujekryłych Vilenskoj gubiernii. Trudy Ross. Entom. Obšč. Pieciarburh 1908.

[36]) Hering M. Beiträge zur Kenntnis der Microlepidopterenfauna von Polen. Stett. Ent. Zeitschr. Jahrg. 79. 1918.

[37]) Gieysztor M. Notatki lepidopterologiczne. Polskie Pismo Entomologiczne. T. IV. Lwów, 1925.

[38]) Prüffer J. Przyczynek do znajomości motyli półn.-wsch. Polski. Prace Tow. Przyj. Nauk w Wilnie. T. III. 1927.

Toj-ža—Drugi przyczynek do znajomości motyli półn.-wsch. Polski. Ibid. T. V. 1929.

Toj-ža—Pryczynek do znajomości motyli Puszczy Białowieskiej. Polskie Pismo Entom. T. II. 1923. Lwów.

Žukoŭ (*Coleoptera*) sabranych u vakolicach Vilni i Trokaŭ apracavaŭ (pakulšto tolki *Adephaga* i *Palpicornia*) Mgr. OGIJEWICZ [39]). Aprača hetaha, žukoŭ sabranych mnoju ŭ vakolicach Ašmiany i ŭ vakolicach Palan hr. ZIEMACKIM [40]), apracoŭvaje aŭtar hetych uvahaŭ.

Z bałonkakryłych (*Hymenoptera*) — pčoły (*Apidae*) Vilenščyny apracavaŭ Dr. ADOLPH [41]), pierad im-ža pavažniejšyja zaciemki parabili STRAND [27]) i BISCHOFF [42]).

Nad muraškami (*Formicidae*) Zachodniaj Biełarusi pracavaŭ krychu da vajny RUZSKY [43]), u apošnija hady Mgr. JAGODZIŃSKA [44]) i Mgr. WENGRIS [45]).

Dvukryłyja (*Diptera*) našych ziamiel nia mieli adumysłovych daśledčykaŭ. Tolki ŭ pracy SZNABLA [46]) možna znajści raskidanyja viestki, pachodziačyja z hetaha abšaru.

Piarejdzim ciapier da rakavatych (*Crustaceae*). Nakolki mnie viedama, dyk aprača pracaŭ DYBOWSKAHA i GROCHOWSKAHA [47]), LITYŃSKAHA [48]) i BOWKIEWICZA [49]) — bolš publikacyjaŭ adnosna hetaj faŭny nia majem.

Hubki sałodkich vodaŭ (*Spongillidae*) z Vilenščyny i Navahradčyny sabraŭ praf. Dr. GROCHMALICKI, ale ci pracy ab ich užo apublikavanyja— daviedacca mnie nie ŭdałosia. Aprača hetaha nad hubkami Zachodniaj Biełarusi krychu pracavaŭ i DYBOWSKI [50]).

Ab virkoch (*Turbellaria*) našych ziamiel mnie viedamaja tolki adna

---

[39]) Ogijewicz B. Przyczynek do znajomości chrząszczy (Adephaga i Palpicornia) okolic Wilna i Trok. Prace Tow. Przyj. Nauk w Wilnie. Tom VII. 1931.

[40]) Zbory hr. Uł. Ziemackaha źjaŭlajucca prykładam, jak intelihient, žywučy na pravincyji, moža prynosić karyść navucy źbirajučy faŭnistyčnyja matarjały dla paźniejšaha apracavańnia faŭnistam. Zbory hr. Ziemackaha, jak i maje, źjaŭlajucca ciapier sobskaściu Zoolohičnaha Muzeju U. Ś. B. u Vilni.

[41]) Adolph W. Nomada pulchra Arn. (Hymenoptera, Apidae) aus der Umgegend von Wilno. Fragm. faunistica Mus. Zool. Polonici. Warszawa 1933.

Toj-ža — Materjały do znajomości fauny pszczół Wileńszczyzny. Prace Tow. Przyj. Nauk w Wilnie. T. VIII. 1934 r.

[42]) Bischoff H. Hymenopteren in Beitr. zur Nat. u. Kulturgesch Lithauens. Abh. d. math.-naturwiss. Abt. d. Bayer. Akad. d. Wissensch. Supl. B. Muenchen 1925.

[43]) Ruzsky M. Spisok muravjev Minskoj gub., sobrannych ekspiedicijej Moskovskovo Stud. Kružka.

Toj-ža—K faunie muravjev Vilenskoj gub. Trudy Stud. Kružk. Izsl. Russ. Prir. Mosk. Un. 1907.

[44]) Z. Jagodzińska. Mrówki okolic Grodna. Prace Tow. Przyj. Nauk w Wilnie. T. VII. 1931—32 r.

[45]) J. Wengrisówna. Mrówki okolic Wilna i Trok. Ibidem.

[46]) J. Sznabl. Spis owadów dwuskrzydłych (Diptera) zebranych w Królestwie Polskiem i gub. Mińskiej. Pam. Fizjogr. T. I. 1881. Warszawa.

[47]) Dybowski B. i Grochowski M. Spis systematyczny wioślarek Krajowych. Kosmos, 1895.

Dybowski B. — Świteź. Kosmos. 1898.

[48]) Lityński A.—Wioślarki Litewskie, Rozp. Ak. Um. Kraków 1915.

[49]) Bowkiewicz J. Lynceus acanthorhynchus n. sp. Prace Tow. Rrzyj. Nauk w Wilnie. T. I. 1923.

Toj-ža—Materjały do fauny Cladocera Wileńszczyzny. Ibid. T. II. 1925 r.

[50]) Dybowski W. Studien üder die Süsswasser-Schwämme des Russisches Reiches Mém. de l'Acad. des Sciences de St. Petersb., VII-e Série, tom XXX, Nr. 10.

Toj-ža—Mitteilung über die aus dem Flusse Niemen stammende Trochospongilla erinaceus Ehreub. Sitzungsber. der Dorpater Naturforscher-Gesellschaft, 1884.

praca Dr. FEDOROWICZA [51]. Nitkavatyja (*Nematodes*) z hledzišča fizijohrafičnaha ŭ nas zusim nie apracavanyja.

Ab faŭnie pijaŭkaŭ (*Hirudinea*) Vilenščyny (Vilnia i jaje vakolicy), Navahradčyny (vakolicy Słonima) i Paleśsia (vakolicy Berezy Kartuskaj), letaś vyšła praca Dr. LIŚKIEWICZA [52]. U 1925—27 hadoch apublikavaŭ jon taksama niekalki drobnych uvahaŭ [53]. Apryča hetaha, toje-sioje možna znajści ŭ pracach LINDELFELDA i PIETRUSZYŃSKAHA [54], GEDROYCIA [55] i BOWKIEWICZA [56].

Faŭnaj našych parazytnych červiakoŭ—nia hledziačy na ich ahramadnaje značeńnie ŭ medycynie i veterynaryji —nichto specyjalna nie zajmaŭsia.

Ab *Rotatoria* i *Gastrotricha* Zachodniaj Biełarusi jość drobnyja fizijohrafičnyja ŭvahi biaz bolšaha navukovaha značeńnia, — dyk i z hetaha hledzišča našyja ziemli čakajuć sumlennaha apracavańnia.

I ŭ kancy, adnakletniki (*Protozoa*) nia byli ščaśliviejšymi ad papiarednich, bo i imi na hetym abšary nichto nie zacikaviŭsia.

Voś karotki ahlad stanu faŭnistyčnych dośledaŭ našych ziamiel. Reasumujučy ŭsio, možym skazać, što:

1) Dziakujučy pracam polskich, rasiejskich i niamieckich vučonych majem užo bolej ci mieniej apracavanyja niekatoryja haliny faŭnistyki Zachodniaj Biełarusi.

2) Apracavańnie hetaje adnak vielmi nie raŭnamiernaje jak z hledzišča paasobnych halinaŭ faŭny, tak i abniataha im prastoru [57].

3) I tamu adnej z najvažniejšych našych zadač musić być: hruntoŭnaje i dakładnaje paznańnie źviarynnaha śvietu na ŭsim prastory Zachodniaj Biełarusi, z metaj stvareńnia poŭnaj monohrafiji faŭny našaj krainy.

4) Da hetaj pary ŭ Zachodniaj Biełarusi nima anivodnaha časapisu pryśviečanaha pryrodaviednym navukam, anivodnaj navukovaj pracy, ci chacia-b zaciemki ŭ biełaruskaj movie, i anivodnaha biełarusa pracuju-

---

[51] Z. Fedorowicz. Wirki okolic Wilna. Pam. Fizj. Warszawa 1914.

[52] St. Liśkiewicz—Pijawki półn.-wsch. Polski. Prace Tow. Przyj. Nauk w Wilnie. T. VIII. 1934.

[53] Toj-ža (Drobna notatka). Spraw. Kom. Fizj. Pol. Ak. Um. T. 58/59 r. 1925.
Toj-ža (Drobna notatka). Ibid. T. 60. r. 1926.
Toj-ža. Die Hirudineen der nord-östlichen Polens, Arch. f. Naturgesch. Bd. 91. Heft. 12. 1925.

[54] Lindelfeld H. i Pietruszyński. Przyczynek do fauny pijawek krajowych. Pam. Fizj. T. IX. 1889.
Tyja-ž. Dalsze przyczynki do fauny pijawek krajowych. Ibid. T. X. 1890.

[55] Gedroyć M. Pijawki (Hirudinea) Polski. Cz. I. Rozprawy i Wiad. z Muzeum im. Dzied. we Lwowie. T. I. Zesz. 3/4 r. 1915.
Toj-ža. Pijawki (Hirudinea) Polski. Cz. II. Ibid. T. II. zesz. 1/2 r. 1915.
Toj-ža. Pijawki (Hirudinea) Polski. Cz. III. Ibid. T. III. zesz. 1/2 r. 1918.

[56] Bowkiewicz J. Haementeria costata (F. Muller) w jez. Krzyżaki pod Wilnem. Archiw. Hydrobiol. i Rybactwa. T. I. Nr. 4. r. 1926.

[57] Pakulšto najlepiej apracavanyja z faŭnistyčnaha hledzišča vakolicy Vilni,

čaha na poli faŭnistyki, nia tolki jak profesyjanalnaha navukoŭca, ale navat jak amatara. Ci, načaj kažučy, my nie pryčynilisia i dalej ničym nie pryčyniajemsia da paznańnia faŭny svajoj baćkaŭščyny (sic!).

Takaja niastača zacikaŭleńnia fizijohrafičnymi došledami, žviazanymi ŭsiožtaki z aznačanym etničnym abšaram, moža pryniaści nam, jak nacyji, mnoha škody.

6) Nie biaručy ŭdziełu ŭ navukovaj pracy nad pryrodaj svajoj baćkaŭščyny, nia majem hetym samym suviazi z navukovym žyćciom usiaho cyvilizavanaha śvietu i nakidajem niepraŭdzivy ab sabie pahlad, byccam my źjaŭlajemsia narodam biaz ludziej pavažnych, ludziej zdolnych da peŭnych natuhaŭ, da vytryvałaści ŭ imknieńni da mety, ludziej z tvorčaj inicijatyvaj.

7) Vina za ŭsio heta padaje tolki na biełaruskuju intelihienciju *).

Kančajučy hetyja ŭvahi kidaju klič: Paznavajma ŭsie pryrodu svajoj baćkaŭščyny! Prykładajma svaje zdolnaści i siły da raźvićcia pryrodaviednych navuk!

---

A ciapier niekalki słovaŭ vyjaśnieńnia.

Aŭtar nia dumaŭ hetymi radkami vyčarpać temu. Chaciełasia jamu tolki źviarnuć uvahu na stan faŭnistyčnych došledaŭ u Zachodniaj Biełarusi. Z pryčyny niedachopu miejsca taksama niemahčyma było daŭžej zatrymacca nad kožnaj hrupaj źviaroŭ. Adnosna-ž padanaj litaratury — nia treba jaje ličyć za poŭnuju, bo ciažka było, a navat i niemahčyma, ukłaści za karotki čas poŭnuju biblijohrafiju litaratury, jakaja vychodziła ŭ praciahu całaha stahodździa, była pisanaja ŭ niekalki movach i raściarušanaja pa roznych specyjalnych časapisach, mnohija z katorych naahuł užo dastać trudna.

Asobam, jakija pavažna chacieli-b zaniacca źbirańniem jakohaniebudź faŭnistyčnaha matarjału, ci navat pačali-b specyjalizavacca ŭ niejkim kirunku (čaho nia možna rabić nia majučy ahulnaj adukacyji z pryrodaviednych navuk), radžu, z niastačy ŭ biełaruskaj movie, polski padručnik: *Podręcznik do zbierania i konserwowania zwierząt, wydany przez Państwowe Muzeum Zoologiczne w Warszawie.* Składajecca jon z 7-i ssytkoŭ.

Kali ŭ tak niaprychilnuju ŭ biełaruskim hramadzianstvie paru dla zacikaŭleńnia pryrodaviednymi navukami, hetyja ŭvahi, nakinutyja na niekalki staronkach, zaachvociać kahoniebudź da pavažnych i vytryvałych došledaŭ, — budu ličyć, što praca maja metu svaju asiahnuła.

Vilnia, 15 sakavika 1935 h.

---

*) Adnosiny biełaruskaj intelihiencyji da pryrodaviednych navuk ilustruje nastupny fakt: Niadaŭna pačaŭ vychodzić u Vilni časapis „Kałośsie". Na prośbu adnaho z maładych pryrodnikaŭ nadrukavać u „Kałośsi" svaju pracu z haliny faŭnistyki Zachodniaj Biełarusi, redaktar časapisu — nie razhladajučy navat hetaj pracy — koratka i katehoryčna adkazaŭ; „Pryrodaviednym pracam miejsca ŭ „Kałośsi" nima"! A ŭ padzahałoŭku „Kałośsia" napisana — „litaratúrna-*navukovy* (!) časapis"... *Redakcyja.*

# Што рабіць?

Аснаўная адзнака жыцьця — вечны рух, зьмена. Калі жыцьцё спыніцца хоць на адзін мамэнт — гэта будзе знак сьмерці.

Так у жыцьці арганічным.

Так і ў жыцьці грамадзка-нацыянальным.

І гэта мы мусім добра помніць, помніць асабліва цяпер, калі нам пагражае дэнацыяналізацыя.

У нас ёсьць ужо ясна і выразна сформуляваны ідэал — ідэал дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі. Ідэал гэты, згодны з прызнаным усім сьветам правам народаў на самавызначэньне, знайшоў сваё найбольш поўнае выяўленьне ў пастановах Усебеларускага Кангрэсу 1917 г. і ў акце абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25-га сакавіка 1918 году. Незалежнасьць ня толькі нашая пуцяводная зорка — яна для нас мае ў роўнай меры і ідэальнае, і рэальнае значэньне.

Але на шляху да зьдзейсьненьня ідэалу нашай незалежнасьці існуюць вялічэзныя перашкоды і толькі ўпорыстым, бясспынным, сьведамым сваей мэты натугам усяго беларускага народу мы зможам іх зьнішчыць.

Дык што-ж рабіць нам сяньня — у цяжкіх варунках нашай сучаснасьці? Як нам класьці сваю цэгліну пад фундамэнт будучай вольнай і незалежнай Беларусі?

Часта можна спаткаць дзіўных людзей, якія вельмі многа і горача гавораць аб ідэі незалежнасьці, суляць хуткае яе зьдзейсьненьне, але самі нічога для беларускай справы ня робяць... Нашто рабіць, нашто змагацца з усялякімі труднасьцямі, з якімі сустракаецца кожнае беларускае нацыянальнае пачынаньне? Там — у нашай уласнай дзяржаве — мы нагонім усё, у чым адстаём сяньня...

Такая думка, хаця вельмі выгадная для тых, хто яе выказывае, у сутнасьці сваёй фальшывая і для беларускай справы шкодная. Бо, калі мы хаця на самы кароткі час зложым бязьдзейна рукі, чакаючы, што „доля прыйдзе сама“ — дык ані долі, ані незалежнасьці мы ніколі ня ўбачым.

Будаваць Беларусь мы мусім увесь час, кожны дзень, кожную часіну. Незалежным дзяржаўным жыцьцём мы здолеем жыць толькі тады, калі гэная форма дзяржаўнага існаваньня будзе адказываць запраўднаму імкненьню да яе шырокіх народных масаў, сьведамых нацыянальна, грамадзка актыўных і сваім культурным роўнем здольных узяць у свае рукі кіраваньне жыцьця сваёй Бацькаўшчыны. Усё гэта не здабудзем мы ў адзін мамэнт. На гэта патрэбна доўгая і напружаная праца ўсіх сілаў народу, а перадусім — нацыянальна сьведамай інтэлігенцыі. Ясна, што і ў нас — як ува ўсіх народаў, якія ў барацьбе здабывалі сабе правы і волю — у першых радох працаўнікоў для беларускай справы мусіць стаяць **студэнцкая моладзь**. Мы, студэнты, будучыя інтэлектуальныя сілы беларускага народу, — мусім сабе выпрацаваць ясную **праграму нашай на-**

цыянальнай працы — працы падчас навукі і пасьля сканчэньня яе.

У першую чаргу неабходна працаваць над усьведамленьнем беларускіх працоўных масаў — усьведамленьнем нацыянальным і соцыяльным. Трэба будзіць у масах нацыянальную сьведамасьць, абапертую на пачуцьці людзкіх правоў беларусаў. Па гэтым шляху ішло нашае адраджэньне ад самога пачатку — па гэтым шляху мусіць яно ісьці і разьвівацца далей.

Але ня толькі масам патрэбна нацыянальнае ўсьведамленьне — яно ў вялікай меры патрэбна і для студэнцкай моладзі, якая ў чужых школах загубіла сьведамасьць сваёй беларускасьці, загубіла лучнасьць з сваім народам. Такіх сярод студэнтаў многа — шмат больш, чым нацыянальна сьведамых. Дык трэба іх вярнуць нашаму народу!

Студэнцкая-ж моладзь, праводзячы значную частку году на вёсцы, можа і мусіць прыцягіваць да актыўнай беларускай працы перадавыя элемэнты вясковай моладзі, ды злучаць іх з цэнтрамі грамадзкага і культурнага беларускага жыцьця.

Вёску трэба актывізаваць на грунце культурна-нацыянальнае і гаспадарчае самадзейнасьці. Вёска мусіць прывучыцца вясьці ўсе свае справы саматугам, сваімі ўласнымі сіламі. У гэтай акцыі студэнцкая моладзь шмат можа зрабіць, папамагаючы вёсцы разабрацца ў тым, на што яна мае права і што мусіць рабіць. Самаўрады, усялякага роду асьветныя арганізацыі, коопэратывы і інш. — гэта найлепшая школа грамадзкага жыцьця. Праца ў гэтым кірунку тымбольш патрэбная таму, што ў псыхіцы масаў, як і ў псыхіцы беларускага грамадзянства, дагэтуль жыве ліхая спадчына прыгонных часоў — нястача веры ў свае ўласныя сілы і здольнасьці, у свой уласны розум, шуканьне ўсялякіх чужацкіх „апякуноў“ і „вучыцялёў“. Трэба будзіць у народзе самапашану і веру ў сябе. Бяз духовай незалежнасьці ня можа быць незалежнасьці палітычнай. Будзьма вольнымі і незалежнымі ў душах нашых!

Каб ісьці да народу з новым словам, нельга абмежавацца тым, што сам народ сабе вякамі тварыў. Гэтага мала. Трэба даваць болей і перадусім — трэба самым мець тое, чым будзем дзяліцца з народам: трэба мець культуру, трэба мець веду. Трэба самым узбагачывацца, прысвоіваючы багацьце сусьветнай культуры і творачы ўласныя культурныя цэннасьці. Хай іншыя жартуюць, што гэта „праца на выраст“. Мо' сяньня ня ўсё здолее зразумець і прыняць вёска, — але, калі ня прыйме сяньня, дык пачуе патрэбу гэтага і зажадае заўтра. Ці-ж будзем тады стаяць перад ёю з пустымі рукамі? І таму мы мусім сачыць за сусьветным культурным жыцьцём, мусім браць з яго тое, што нам патрэбна, мусім у канцы і самі прыкладаць руку да тварэньня агульналюдзкой культуры, катора дае і заўсёды будзе даваць духовую страву і беларускаму народу.

Вось коратка нашыя заданьні, нашая праграма творчай працы ў нацыянальнай галіне.

Гэтая праграма, незалежна ад праграмы соцыяльнай — аб якой іншым разам — мусіць быць праводжана ў жыцьцё ўсьцяж, бясспынна і пры ўсякіх абставінах.

Калі нельга зьдзейсьніць усяго — трэба рабіць тое, што можна. Але ніколі нельга спыняць працу для беларускай справы, нельга задзержываць ходу нацыянальнага руху — спыненьне яго, дабравольнае затрыманьне, гэта няўхільны заняпад і нават нацыянальная сьмерць.

---

М. МІЛЮЧАНКА.

# Жанчына ў беларускай літаратуры

Даволі выразныя постаці жанчын выступаюць у творчасьці нашых пісьменьнікаў толькі ў канцы XIX ст. Але ня бачым мы зразу тыпаў з больш менш багатым духовым жыцьцём, ня бачым у іх скамплікаваных псыхічных перажываньняў, якіхколечы імкненьняў вырвацца па-за рамкі хатніх драбніц, увясьці зьмены ў сваё аднастайнае, падпарадкаванае закаранелым звычаям, жыцьцё. Пісьменьнікі перадусім малююць нам іх вонкавае хараство і шчырае, вернае каханьне да выбранцаў свайго сэрца. Бачым мы гэта і ў „Гапоне“ Марцінкевіча з апісаньня прыгожай Кацярынкі, і ў асобе засьцянковай шляхцянкі Марысі ў кам. „Пінская шляхта“. Згодна з тагачасным, яшчэ сказала-б агульным паглядам на жанчыну, як выключна на хатнюю гаспадыню і матку, ды бяручы пад увагу дух часу, яго агульны грамадзка-эканамічны ўклад—трудна жадаць іншага падыходу і пагляду на жанчыну, трудна жадаць ад пісьменьнікаў маляваньня ў сваіх творах асаблівых, больш усебаковых жаночых тыпаў. Наагул, калі пераглядзім разьвіцьцё нашае літаратуры на працягу XIX стагодзьдзя, то пабачым, што калі і спатыкалася дзе-ня-дзе жанчына, то з апісаньнем перадусім яе вонкавага выгляду, яе фізычнага хараства.

Але ўжо на пачатку XX ст. у сувязі, бязумоўна, з поступам жыцьця наагул, а таксама з уздымам нашага адраджэнскага руху, што раз больш і больш месца і ўвагі прысьвячаюць пісьменьнікі жанчыне. Пачынаюць шырэй і глыбей адбіваць яе жыцьцё, духовыя перажываньні, вечную нядолю вясковай кабеты, паступовае, як нацыянальнае, так і соцыяльнае яе ўсьведамленьне, а таксама імкненьне вырвацца з гнятучых рамак ужо аджыўшых традыцыяў і пагладаў на жанчыну.

З часам бачым усё новыя і новыя тыпы з іх паступоваю эволюцыяй, паглядам на жыцьцё, яго патрэбы, заданьні і вымогі. Затрымліваюцца яны таксама і на сваіх, як жанчын, абавязках і ролі ўва ўсіх галінах кіпучага жыцьця. Бачым тыпы старых сялянак, прайшоўшых цяжкі жыцьцёвы шлях у вечнай нядолі і працы. Спаткаем і адзінкі кволыя, уражлівыя, наскрозь жаночыя. Адныя з іх

з багатым духовым зьместам, другія без ніякіх парываньняў да гэтага жыцьця.

Бачым таксама і сільныя воляй, сьведамыя, з выпрацаваным грамадзкім сьветаглядам. Спатыкаем і адзінкі актыўна прымаючыя ўдзел у грамадзкім жыцьці. Разнаякасьць спатыканых у нашай, як і ў кожнай іншай літаратуры, жаноцкіх тыпаў залежыць ня толькі ад іх паасобных характараў, але бязумоўна ад іх паходжаньня, эпохі ў якой жывуць, а таксама веку, гадоў.

У нашай літаратуры бачым і жанчыну сялянку і работніцу места і сьвядомую інтэлігэнтку і прадстаўнічку дробнага мяшчанства, а таксама тыпы былой арыстократыі, альбо маючыя да яе прэтэнсыі (Алечка Макасеева з „Дзьвёх душ“ Гарэцкага, Раіса з рам. „Сьцежкі-дарожкі“ Зарэцкага).

Выразна зарысоўваецца ў нашай літаратуры, сказала-б, барацьба старых з маладымі, барацьба ўстарэлых пагляцаў матак з новым паглядам сваіх дачок, якія пачынаюць ужо імкнуцца парваць вузкія рамкі, прывязываючыя жянчыну выключна да хаты, печы, голкі, ды кудзелі. І вось гэтая разьбежнасьць пагляцаў на жыцьцё жанчыны вытварае часамі ціхае, а часамі і даволі вострае змаганьне маладога пакаленьня з старым, ня могучым разьвітацца з колішнімі традыцыямі („Паўлінка“ Янкі Купалы, а яе бацькі, Людвіся з „Каліськ“ Аляхновіча, Алёнка з пов. „На прасторы жыцьця“ Коласа).

Каб даць хоць больш - менш выразны абраз папярэдніх, праўда вельмі агульных і кароткіх вывадаў, разгледзім цяпер на падставе твораў, некалькі жаноцкіх тыпаў, якія даюць характэрыстычныя рысы і паняцьце аб тысячах ім падобных.

Якія-ж жаночыя тыпы выводзяць нашыя пісьменьнікі XX-га стагодзьдзя? У якім сьвятле і з якім падыходам апісываюць іх у сваіх творах? Як малююць іх жыцьцё, імкненьні?

Ужо ў невялікіх апавяданьнях Ядвігіна Ш., як „Бярозка“, „Гаротная“, бачым глыбейшае зацікаўленьне жаночай доляй, яе духовымі перажываньнямі, Марыська (з апав. „Бярозка“) — маладая, замужняя сялянка сохне пад цяжарам свайго невясёлага жыцьця ў чужой, мужавай сямейцы. Аўтар ужо не агранічваецца апісаньнем вонкавага хараства, а дае, праўда, кароткую, але глыбокую характэрыстыку яе духовага перажываньня. Малюе сум і жальбу, што авеялі душу маладое гаротніцы-сялянкі і яе глыбокае адчуваньне нядолі і долі іншых, нават засыхаючае бярозкі.

У апавяданьні „Гаротная“ бачым прабег усяго жыцьця беднай, запраўды пакрыўджанай лёсам, удавы Тамашыхі. Сірата з малых гадоў, яна да старасьці чула толькі лаянку, праклёны, працавала бязупынку, зносіла вечны голад ды клопаты. Яе моцнае жаданьне ласкі, прыветлівага слова былі дарэмнымі, не знаходзілі водкліку. Ужо будучы жонкай п'яніцы — малазямельніка (ня раз дазнаўшы сінякоў ад яго рукі), кідалася Тамашыха, як рыба аб лёд, каб як небудзь пракарміць сям'ю. Галадалі і хварэлі дзеці, сохла без пары і яна. Урэшце, зваліўшыся п'яны з рыштаваньня хварэе, а пасьля паміраё муж. Хутка адзін за другім адыходзяць на той сьвет і тры сынкі. Астаецца Тамашыха ўдавою з адным сынам Сьцяпанкай, якога аддае на службу—пасьвіць скаціну. Але хлопчык ад вечных недаяданьняў

за жывёлай зьнямогся, захварэў і вярнуўся ў хату мацеры. І вось, каб вылячыць адзіную сваю пацеху, хоць цёмная і загнаная, але глыбака кахаючая матка, парыць усялякае зельле, шукае рады ў знахароў з забабоннай верай у іх помач. Нішто аднак не памагала. Урэшце адна знахарка дала нейкага моцнага зельля, ахвярай якога падае Сьцяпанка, задыхаючыся ад яго дыму. Цёмная, бедная, забабонная, спрацаваная, глыбака адчуваючая ўсе нягоды сваёй долі сялянка, з сваёй бязконцай трагэдыяй-жыцьцём — гэта адбітак жыцьця тысяч вясковых жанчын нашай калісь ды і цяпер Беларусі.

Прыгожа малюе нам тып сялянкі-маткі і гаспадыні Якуб Колас у асобе Ганны з „Новай зямлі". Але гэта ўжо не забабонная, цёмная Тамашыха, а жанчына больш сьвядомая, сумуючая за кавалкам уласнае зямелькі, у якой бачыць народні з мужам і шваграм выхад з цяжкае эканамічнае залежнасьці ад пана. Працу Ганны, яе безупынныя клопаты, гутаркі з хатнімі аб зямлі, адносіны да мужа, дзяцей і знаёмых — усё гэта апісвае наш пясьняр з любоў'ю, вобразна і праўдзіва, як сын вёскі прад вачыма якога праходзіла жыцьцё маткі-сялянкі і інш.

Цікавы таксама тып вясковае бабулькі, палящучкі, дае нам Колас у сваёй повесьці „У палескай глушы". Яе разважаньні аб жыцьці, аб адносінах паміж людзьмі, наіўныя спасьцярогі і вывады не пазбаўленыя, праўда, і забабоннае афарбоўкі, выражаюць запраўды спэцыфічны філёзофскі пагляд на акружаючы сьвет.

У сувязі з разьвіцьцём беларускага адраджэнскага руху, а поруч з ім і нашае літаратуры, зьяўляюцца што раз новыя жаночыя тыпы , якім пісьменьнікі што раз больш прысьвячаюць месца ў сваіх творах. Так ужо народнік Е. Каганец у сваей камэдыі-сатыры „Модны шляхцюк" выводзіць тып вясковай дзяўчыны, якая з пагардаю адносіцца да сватаньня моднага шляхцюка ў сурдуце, гаворачага калечанай польскай мовай з вялікім выабражэньнем аб сваёй высокай культурнасьці. На ўсе намовы паніча стаць яго жонкай і кінуць „простую гутарку", дзяўчына рашуча адмаўляе яму, зазначаючы, што н я т р э б а н а м ч у ж ы х в ы д у м а к і м о в ы, б о д о с ы ц ь н а м н а ш а е м о в ы, н а ш ы х з в ы ч а я ў".

Падобны тып малюе нам і Янка Купала ў асобе Паўлінкі. Кахаючы сьвядомага беларуса, настаўніка Якіма, дзяўчына знаёміцца з беларускай кніжкай, пачынае яшчэ больш любіць сваю родную мову, песьні, звычаі. Яна, як і Ганка Каганца, з пагардаю адносіцца да сватаньня шляхціца, хварэючага на панскасьць, крытыкуе яго ў вочы на кожным кроку. Паскольні ў творы Каганца бачым яшчэ даўнейшую амаль без'апэляцыйную паслухмянасьць дзяўчыны волі і загадам бацькоў у пытаньні замужства, то ўжо Паўлінка пачынае бунтавацца супроць закаранелых звычаяў. Яна пастанаўляе сама будаваць сабе шчасьце, пайсьці жыцьцёвай дарогай з любым чалавекам, а не з тым, каго так горача хоча яе бацька, жадаючы мець багатага „шляхетнага" зяця а бачачы ў выбранцы дачкі хама і забастоўшчыка. На гэтым грунце вытвараецца канфлікт паміж Паўлінкай і бацькамі, пачынаецца барацьба (аб якой мы ўжо казалі) маладога пакаленьня з консэрватыўным старым, ня могучым пагадзіцца з новымі павевамі. Недарма, відаць, кажа яе матка да свае суседкі: „В е л ь м і т р у д н а

паладзіць з цяперашняй моладзьдзю. Пашло такое распуства, што ня дай Божа. Заместа кніжак да набажэнства—чытаюць нейкія дрындушкі". Гэтак адзываецца старая маці Паўлінкі аб беларускіх кніжках, якія дае чытаць яе дачцы настаўнік Якім.

З бегам часу вастрыня гэтае барацьбы, як-бы прытупляецца, ці — лепш кажучы — зьяўляецца што раз больш лік жанчын, якія зрываюць з адвечнымі традыцыямі і з колішнім паглядам на жанчыну, як выключна гаспадыню ў чатырох сьценах свае хаты без належнае ёй асьветы і веды.

Так Алёнка з тв. „На прасторах жыцьця" Т. Гушчы, Наталка з драмы „Апошняе спатканьне" Галубка, далей Алёнка з драмы „Тутэйшыя" Янкі Купалы - вось тры дзяўчыны-сялянкі, якія здабыўшы ў сваіх вёсках пачатковую асьвету, едуць у места, каб вучыцца далей, каб здабыць больш веды і падзяліцца ёю з сваёй роднай вёскай, унясьці ў яе больш сьвятла, асьветы, сьведамасьці.

Дзеля прыкладу разгледзім тут у некалькі штрыхах больш падробную характэрыстыку аднэй з іх.

Возьмем Алёнку Гушчы. З малых гадоў бачым у яе вялікае зацікаўленьне кніжкай, а таксама здольнасьць да пісаньня вершаў. Вучыцца ў сямігодцы, часта чуючы нараканьні маткі, што навука і мазгі высушвае і ў сухоты заганяе, а тут і ў хаце памагчы трэба, „Ёй здаецца, што я і так ужо вучоная" — кажа Алёнка. Жанчына сама павінна прабіць сабе дарогу ў новае жыцьцё і паказваць яе, калі зможа, іншым — вось дэвіз Алёнкі пасьля сканчэньня сямігодкі.

І дзяўчына прыступае да працы. Піша карэспандэнцыі аб жыцьці свае вёскі ў газэту, намаўляе чараду дзяўчат памагчы хворай удаве жаць збожжа. Спакойная, ветлівая, поўная імкненьняў гуртуе каля сябе Алёнка ў доўгія асеньнія вечары моладзь, любіўшую кніжку, моладзь больш новага кірунку, што шукала дарог у новае жыцьцё. Хата дзяўчыны сталася проста школаю, дзе праводзілі час за кніжкай, паважнай гутаркай, адбываліся рэпэтыцыі да спэктакляў. Праз увесь час падтрымоўвае Алёнка сувязь з местам, цікавіцца яго жыцьцём, асабліва навукай і вучнёўскім жыцьцём у сярэдніх школах. Яе жывым інфарматарам аб месьце зьяўляецца сусед Барута, які вучыцца ў Менску на рабфаку, а з якім лучыць Алёнку шчырая прыязьнь ад малых гадоў, вытвараная супольнымі чытаньнямі, гутаркамі і імкненьнямі. У канцы летніх вакацыяў дзяўчына выяжджае ў Менск, і паступае ў пэдагагічны тэхнікум, каб зрэалізаваць свае лятуценьні.

Прыгожы тып сьвядомай беларускай інтэлігэнткі малюе нам М. Гарэцкі ў асобе Іры Сакавічанкі з пов. „Дзьве душы". Ідучы за аўтарам разгледзім яе характэрыстыку, якая выразна адбівае перадусім духовыя вартасьці сьведамай беларускай жанчыны на зары нашага адраджэньня. Прывяду тут даслоўны вынятак з повесьці: „Іра Сакавічанка, дачка лясьніка, скончыўшы гімназію ў N, паступіла на пасаду земскай настаўніцы ў глухой правінцыі, недалёчка ад Крупак, двара Абдзіраловічаў. Яна была на раздарожжы: хацелася ехаць на вышэйшыя курсы, хацелася памагаць бацькам вучыць малодшых дзяцей, значыцца служыць, зарабляць грошы. Хацелася - от, так, неабмеркавана, няясна чаму — забіцца ў глухі кут, ў бедную

школку, вучыць дзяцей, чытаць кніжкі і думаць аб нейкіх неспадзяванках у жыцьці. З беларускім рухам яна пазнаёмілася яшчэ на школьнай лаўцы: гімназісты давалі чытаць беларускія кніжкі. Перад службай Іра думала так: для адраджэньня патрэбны людзі з вышэйшай асьветаю, дык яна папрацуець год, два у школцы, заробіць грошы, а потым паедзе вучыцца; дый ці мала чаго прадумала тагды дзяўчына... А выйшла зусім ня тое. Ля Крупак яна пранастаўнічала чатыры гады -- да той памятнай для яе вясны, калі пакахала студэнта Абдзіраловіча. Пасьля яна перавялася ў Гарэцкі павет, каб быць бліжэй да Горак: ёй шмат хто казаў, што ў Гарэцкіх сельскагаспадарчых школьных інстытуцыях ёсьць вельмі многа сьвядомых беларусоў паміж вучняў. Сакавічанка хацела вырваць з успамінаў тую вясну, назаўсёды зрачыся ўсякіх любашчаў і ўсей душой аддацца „толькі аднэй сьвятой працы — працы на ніве беларускага адраджэньня“. Пераехаўшы ў новую школку, яна незабавам завязала зносіны з Горкамі. Там, на першым беларускім спэктаклі, яна надта разчулілася ад прыемнасьці і разам разчаравалася. Пабачыла, з якімі высілкамі працуе жменька ідэёвай моладзі, як мала зроблена і як шмат працы ёсьць усюды, усюды. І яна завінулася ля гэтай працы, колькі пазвалялі сілы і час. С е я л а б е л а р у с к у ю с ь в я д о м а с ь ц ь с я р о д с я л я н і с я л я н с к а й і н т э л і г э н ц ы і. Вучыла ня толькі дзяцей, але і дарослых чытаць, пісаць, дэклямаваць і пяяць пабеларуску. А вучыла без беларускіх падручнікаў, бо іх ня можна было дастаць з-за дэмаркацыйнай лініі (з-за фронту). Гэтая, праца захапляла яе ўсю. Даўгі час Іра быццам ня мела ані той вясны-ані таго каханьня, ані тых успамінаў. Быццам забылася аб Абдзіраловічу. Але цяпер, дачуўшыся, што ён жыве ў N, што бацька хоча памірыцца з ім, ш т о м о ж а б ы ц ь ш к о д а д л я с п р а в ы а д я г о н е с ь в я д о м а с ь ц і, — Іра зноў згубіла спакой, толькі ня мела сьмеласьці прызнацца сабе ў гэтым. Ёй здавалася, што зусім і ня любіла Абдзіраловіча, што ў яе было нешта, што ня можна і любоўʼю назваць. Але чаму-ж паміма яе волі думаецца аб ім, плывуць ужо ўспаміны аб той вясьне, і хочацца без канца ляжаць пад яблынкай паціху з заплюшчанымі вачамі і апалымі ад невядомай, бязпрычыннай зморанасьці рукамі? І чаму першы раз во паўзуць у галаў такія нядобрыя думкі? Думкі аб тым, што працуе, працуе без канца... А дзе-ж радасьць асабістага жыцьця? Было толькі раз, толькі з ім. І тады-ж рабіла, працавала, а чаму-ж тады вясна была ўсьцяж сьвятам, сонечным, радасным сьвятам? А цяпер? Ці-ж так ужо і ня будзе асабістага шчасьця? А гады лятуць, лятуць... Сэрца сьціскаецца ў дзяўчыны ад засмучэньня. І самой сабе сорамна за думкі гэтыя! То-ж здрада сьвятой справы. Ц і - ж м о ж н а ш к а д а в а ц ь с і л, п р ы г о ж а с ь ц і д л я а д р а д ж э н ь н я б а ц ь к а ў ш ч ы н ы?“

І відаць дзяўчына перамагла свае духовыя хваляваньні, пэўны занепад энэргіі і сваё сумаваньне за асабістым шчасьцем. Яна ізноў бярэцца за працу на ніве адраджэньня Беларусі. Калі-ж заарыштовываюць, як контр-рэволюцыянэраў, яе таварышоў, Сухавея і Канцавога, Іра, ня гледзячы на ўсе няпрыемнасьці і перашкоды, робіць энэргічныя стараньні, каб вызваліць іх з турмы.

(Канец будзе).

# ЛЕТАПІС

## БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦКАГА САЮЗУ ПРЫ ЎНІВЭРСЫТЭЦЕ СЬЦЯПАНА БАТУРЫ Ў ВІЛЬНІ.

*(Агляд дзейнасьці БСС за час ад 23 лістапада 1930 г. да 25 чэрвеня 1935 г.)*

Куратар Саюзу: да 31.V.32 г. — Праф. Др. Станіслаў Владычка; ад 15.VI. 1932 г. — Праф. Др. Эрвін Кошмідэр.

### 1930/31 акадэмічны год.

Апошні нумар „Студэнцкай Думкі“ быў выданы ў лістападзе 1930 г. і таму наш агляд дзейнасьці пачынаецца з гэнага часу. У гэтым годзе ў Саюзе існавалі сэкцыі літаратурная (кіраўнік Ст. Станкевіч) і драматычна-музыкальная (кіраўнік С. Сарока, пасля Я. Хвораст). З ініцыятывы літаратурнай сэкцыі было прачытана 9 рэфэратаў. Сэкцыя драматычна-музыкальная зладзіла: 17. І. 31 г. вечарыну з п'есай Я. Коласа „Нясьведамы элемэнт“ у праграме і 17.III.31 г. вечарыну з п'есай Тагабочнага „Змагары за ідэю“; гэтую п'есу адыгралі яшчэ раз 20. VI. 31 г. Апрача гэтага, былі зладжаныя Саюзам 3 гарбаткі і супольны беларуска-літоўска-ўкраінскі студенцкі баль.

Вяліся ў гэтым годзе — з матар'яльнай помаччу „Цэнтрасаюзу“ — Завочныя Коопэратыўныя Курсы. Аднак у хуткім часе прышлося вясьці Курсы выключна сваімі сіламі. Кіраўнікамі Курсаў былі сябры: Яз. Клагіш, Ст. Станкевіч і М. Тулейка. Курсы трывалі ад 1. XII. 30 да 10. V. 31 г. Слухачоў запісалася 150, кончыла 50. Праграма курсаў абыймала гэткія прадметы: 1) Гісторыя Коопэрацыі; 2) Гандлёвая арытмэтыка; 3) Беларуская мова; 4) Тавазнаўства; 5) Тэхніка продажы і 6) Бугальтэрыя. Дзеля нястачы грошаў, Курсы былі закончаныя пасьля распрацоўкі палавіны праектаванай праграмы.

23. XI. 30 г. пад пратэктаратам Яго Магніфіцэнцыі Рэктара УСБ Праф. Др. Янушкевіча было зладжана сьвяткаваньне X угодкаў існаваньня БСС. Раніцаю, у салі Сьнядэцкіх УСБ, адбылася ўрачыстая акадэмія з рэфэратамі аб беларускім студэнцкім руху. Пасьля рэфэратаў віталі Саюз прадстаўнікі беларускага, украінскага, літоўскага, польскага і жыдоўскага грамадзянства. Апрача таго, прыслалі свае прывітаньні на пісьме больш 20 беларускіх і небеларускіх арганізацыяў і інстытуцыяў у краі і заграніцай, і больш 20 асоб з беларускай інтэлігенцыі. Увечары таго-ж дня адбыўся канцэрт-баль.

3. V. 31 г. адбыўся агульны гадавы сход сяброў БСС, на якім быў выбраны Урад на 1931/32 акад. год у наступным складзе: старшыня — Б. Арэнь, віцэ-старшыня — В. Тумаш, сэкратар — А. Гаўрылічанка, скарбнік — Ю. Кепель і гаспадар — Яз. Клагіш. Сяброў Саюзу ў 1930/31 ак. г. было блізу 80 асоб,

### 1931/32 ак. год.

Яшчэ вясной 1931 г. група сяброў Саюзу, блізкая сваімі паглядамі да т. зв. „беларускай санацыі“, ня выступаючы з БСС, закладае

карпарацыю „Скарынію“. Адносіны да Саюзу сяброў, належачых адначасна да „Скарыніі“, і выкліканыя імі авантуры змушаюць Урад да вострай барацьбы з імі. 12. XII. 31 г. Урад завесіў сяброў Саюзу: К. Глінскага, А. Мілера і А. Бартуля (сябры карпарацыі) за іх выступленьне проціў АБСА (Аб'еднаньне Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў), сябрам каторага зьяўляўся Саюз. 13. XII. 31 г. агульны надзвычайны сход БСС забараніў сваім сябром належыць да карпарацыі. 21. I. 32 г. Куратар БСС Праф. Владычка, дзеля фармальных прычын унявважніў пастанову сходу з дня 13. XII. 31 г. У гэты-ж дзень Урад БСС паддаўся да дымісіі. 11. II. 32 г. Праф. Владычка вызначыў Камісарычны Урад БСС у складзе: старшыня — Т. Куніцкі, сэкратар — А. Аніська, скарбнік — Яз. Бурак. Камісарычны Урад двойчы прасіў п. Куратара дазволіць склікаць агульны сход, аднак згоды на гэта з боку п. Куратара ня было. 30. V. 32 г. сябры Саюзу зьвярнуліся на пісьме да Праф. Владычкі з просьбай склікаць агульны сход сяброў для ўнармаваньня жыцьця БСС. Пад просьбай было падпісаных 45 сяброў Саюзу. 31. V. 32 Праф. Владычка зракаецца куратарства. 15. VI. 32 г. Акадэмічны Сэнат назначае Куратарам Саюзу Праф. Др. Эрвіна Кошмідэра. 19. V. 32 г. сябры карпарацыі (12 асоб) выступілі з Саюзу.

Нягледзячы на ўсе гэтыя перашкоды, БСС патрапіў быць дзейным. І так, былі зладжаны два канцэрты: першы—4. VI. 32 г. у салі Гандлёва-Прамысловага Клюбу, другі—15. VI. 32 г. у парку ім. Жэлігоўскага, пры вялікай колькасьці прысутных. Хорам кіраваў ведамы рэгент гр. Р. Шырма. 21. II. 32 г. адбываецца ў Вільні Студэнцкая Выстаўка, у якой браў удзел і БСС, выстаўляючы беларускую студэнцкую прэсу, дыяграмы і фатаграфіі з арганізацыйнага жыцьця. У гэтым-жа годзе адбылося некалькі рэфэратаў, суботнікаў з „гарбаткай“, экскурсыя ў Беларускі Музэй, некалькі дыскусыйных вечароў і чародны гадавы баль з Студэнцкімі Саюзамі Украінцаў і Ліцьвіноў. 1. VI. 32 надзвычайны агульны сход сяброў БСС у справе цяжкога палажэньня беларускага школьніцтва ў Польшчы не адбыўся, бо п. Куратар ня даў на гэта згоды. Сяброў у Саюзе было 83, пад канец ак. году 69 (выступілі карпаранты).

Вясной 1932 „нехта“ зрабіў напад на памешканьне БСС, зьнішчыў і часткова забраў акты і маемасьць БСС.

## 1932/33 ак. год.

На агульным сходзе БСС 26. XI. 32 быў выбраны Урад Саюзу ў гэткім складзе: старшыня — Я. Давідовіч, віцэстаршыня — М. Мілючанка, сэкратар — А. Аніська, скарбнік — В. Войтэнка, гаспадар — П. Пяршукевіч. На гэтым-жа сходзе была пацьверджаная пастанова агульнага сходу з 13. XII. 31 аб забароне належаньня сябром БСС да карпарацыі.

У гэтым годзе моцна зьменшыўся лік сяброў Саюзу з прычыны пабольшаньня платы за навуку на Унівэрсытэце блізу на 100 проц. Многім дзецям беларускай вёскі гэтая падвышка адрэзала дарогу да навукі і гэта БСС моцна на сабе адчуў.

Саюз у гэтым годзе зладзіў 6 вечарын з прадстаўленьнямі на

правінцыі (ў Наваградзкім павеце). Разгарнуць шырэй працу ў гэтым кірунку было цяжка. Рабілася для Саюзу ў гэтым розныя перашкоды, а Наваградзкае стараства часам адмаўляла дазволу „z uwagi na bezpieczeństwo, spokój i porządek publiczny“ 12. III. 33 у Вільні была пастаўленая пьеса сябры Саюзу Я. Хвораста „На поэтыцкай вышыні“ і выступаў хор БСС пад кіраўніцтвам гр. Р. Шырмы. Было таксама прачытана 11 рэфэратаў, з якіх 7 на правінцыі (Наваградчына—прысутных часта болей 600 асоб!) і 4 ў Вільні. Апрача таго, на запрашэньне Акружной Управы ТБШ у Беластоку, сябры Саюзу М. Мілючанка і П. Пяршукевіч дэлегуюцца ў Беласточчыну на чытаньне папулярна-навуковых лекцыяў. Лекцыі былі прачытаныя ў такіх мясцовасьцях: 2 у м. Беластоку, у м. Гарадку, у м. Міхалове, ў вёсках: Новая Воля, Тапільцы, Залукі, Валілы, Пяшчанікі, Мялешкі, Рушчаны і Касьцюкі. У Беластоку ў гэтым-жа часе ТБШ ладзіла курсы для дарослых, на якіхс. М. Мілючанка чытала лекцыі з гісторыі беларускай літаратуры, а с. П. Пяршукевіч з матэматыкі і фізыкі. З іх-жа ініцыятывы 6. I. 33 у Беластоку адбылося прадстаўленьне „Змагары за ідэю“.

БСС браў дзейны ўдзел таксама ў ладжаных грамадзянствам сьвяткаваньнях: 1) Юбілею Я. Купалы і Я. Коласа, якое адбылося 27. XI. 1932 г.; 2) XV угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі і 75 угодкаў беларускай прэсы, якое было 25. III. 33 г.

Былі зладжаныя таксама 2 гарбаткі, 2 экскурсыі ў ваколіцы Вільні, 1 экскурсыя ў Беларускі Музей; супольна з калегамі ўкраінцамі і ліцьвінамі 1 суботнік і 1 канцэрт-баль. Сяброў Саюз меў ў 1932/33 ак. годзе 52.

## 1933/34 ак. год.

Яшчэ 1. IV. 33 Міністар Асьветы выдаў распараджэньне аб студэнцкіх арганізацыях у Польскім гаспадарстве. Згодна з гэтым распараджэньнем БСС быў змушаны выступіць з АБСА. 7. XI. 33 г. Урад выслаў у Міністэрства просьбу, каб можна было і далей належыць да АБСА. Адказ на гэта быў адмоўны (25. I. 34 № IV.NS — 11470/33) і з той пары Саюз ня мае праўных магчымасьцяў належаньня да сваей Цэнтралі.

12. XI. 33 на агульным сходзе быў выбраны новы Урад у такім складзе: старшыня — Ю. Кепель, віцэстаршыня — В. Войтэнка, сэкратар — В. Тумаш, скарбнік — А. Тышкевіч, гаспадар — П. Радзюк.

Адбыліся ў гэтым годзе два літаратурныя вечары. На адным з іх чыталі свае творы сябры Саюзу, на другім была „Жывая газэтка“.

4. XII. 33. памёр у Наваградку дзейны сябра БСС і б. сябра Ўраду — Пётра Пяршукевіч.

17. VI. 34. ладзіўся канцэрт-спэктакль; была пастаўленая п'еса Я. Хвораста „На поэтыцкай вышыні“ і выступаў хор пад кіраўніцтвам гр. Р. Шырмы. Рэфэраты ў гэтым годзе чыталіся такія: 1. кал. Барысаглебскі: Барацьба дзьвёх тэорыяў сьвятла. 2. кал. Радзюк: Клясавы характар канстытуцыяў. 3. кал. Тумаш: Дарвінізм. 4. кал. Тумаш: Уплыў дарвінізму на розныя галіны людзкой веды. 5. кал. Гра-

мыка: Аб дзяржаве. 6. кал. Радзюк: Сусьветны эканамічны крызыс. Апрача таго была зладжана 1 гарбатка, 1 суботнік, экскурсыя ў Бел. Музей, экскурсыя ў Вэркі і – супольна з калегамі ўкраінцамі і ліцьвінамі — канцэрт-баль і гарбатка.

**1934/35 ак. год.**

20. X. 34. Інаўгурацыйны вечар.

21. X. 34. Літаратурны вечар, на якім чытаецца п'еса с. Я. Хвораста „На выбоінах“.

28. X. 34. Агульны надзвычайны Сход сяброў БСС, на якім выбраны Ўрад у складзе: старшыня — М. Шчорс, віцэстаршыня — В. Войтэнка, сэкратар — А. Смаль, скарбнік — Т. Трафімучанка, гаспадар – Ул. Грамыка.

11. XI. 34. За дэструкцыйную дзейнасьць у Саюзе п. Куратар завешывае ў сяброўскіх правох калег Ул. Грамыку і А. Смаля.

17. XI. 34. Акадэмія прысьвечаная Цётцы (А. Пашкевіч). Рэфэрат чытала кал. М. Мілючанка; дэклямацыі.

24. XI. 34. Сяброўская гарбатка.

4. XII. 34. Акадэмія прысьвечаная памяці Пётры Пяршукевіча.

7. XII. 34. Акадэмія прысьвечаная 40-угодкам сьмерці Адама Гурыновіча з рэфэратамі мгр. Я. Шутовіча і абс. М. Пяцюкевіча.

8. XII. 34. Рэфэрат кал. А. Смаля: Аб імпэрыялізьме.

9. XII. 34. Надзвычайны Сход БСС вычыркнуў з ліку сяброў Саюзу Ул. Грамыку і А. Смаля за іх шкодную для БСС дзейнасьць.

19. I. 35. Рэфэрат кал. Склубоўскага: Аб нацыяналізьме.

26. I. 35. Рэфэрат кал. Малецкага: De neoplasmatibus; пасьля рэфэрату суботнік.

1. II. 35. Дыскусыйны вечар у справе часапісу БСС.

23. II. 35. Рэфэрат кал. Засіма: Раздрабленьне зямельных гаспадарак у Віленшчыне.

2.. III. 35. Чародны гадавы баль з Студэнцкімі Саюзамі Украінцаў і Ліцьвіноў

24. V. 35. Рэфэрат гр. Л. Мэнкэ: Гаспадарчае палажэньне СССР.

25. V. 35. Інфармацыйны рэфэрат кал. В. Склубоўскага для калег украінцаў і ліцьвіноў: Беларускае школьніцтва ў Заходняй Беларусі.

29. V. 35. Рэфэрат гр. Л. Мэнкэ: Палажэньне сялянскай і работніцкай клясы ў СССР.

30. V. 35. Рэфэрат пасла Ф. Ярэміча: Беларуская справа на форум Польскага Сойму.

9. VI. 35. Рэфэрат гр. Л. Мэнкэ: Нацыянальнае пытаньне і агульнае палітычнае палажэньне ў СССР.

Улады БСС у дзень 25. VI. 35. прадстаўляліся гэтак:

Куратар — Праф. Др. Эрвін Кошмідэр.

Урад: старшыня — М. Шчорс, віцэстаршыня — М. Якімец, сэкратар — А. Дасюкевіч, скарбнік – П. Засім, гаспадар — Л. Барысаглебскі.

Рэвізыйная Камісія: старшыня — Бурак Яз., сябры — Войтэнка В. і Рубін В.

Ад лютага 1934 г. БСС карыстае з памешканьня Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Адрэс Саюзу: Вільня, Завальная вул. 1—1.

### ДАХОДЫ і РАСХОДЫ
Беларускага Студэнцкага Саюзу пры УСБ у Вільні за час ад 1. I. 1934 году да 1. I. 1935 году.

Даходы | Расходы

| ПАЗЫЦЫЯ | Сума | ПАЗЫЦЫЯ | Сума |
|---|---|---|---|
| 1. Сальдо з 1933 г. . . | 3.62 | 1. Пазычкі і дапамогі сябром . . . . . | 189.75 |
| 2. Сяброўскія складкі і ўпісное . . . . . | 157.00 | 2. Бібліётэка . . . . . | 32.40 |
| 3. Грамадзкая помач . . | 133.85 | 3. Імпрэзы . . . . . . . | 659.45 |
| 4. Зварот пазычак . . . | 6.30 | 4. Утрыманьне памешканьня . . . . . . | 175.60 |
| 5. З „Funduszu opłat akademickich“ . . . . | 200 00 | 5. Канцэлярыйныя . . | 10.80 |
| 6. Імпрэзы . . . . . . | 664.03 | 6. Аплата даўгоў . . . | 15.00 |
| 7. Розныя . . . . . . . | 7.60 | 7. Сальдо на 1935 г. . . | 89.40 |
| Разам . . . | 1172.40 | Разам . . . | 1172.40 |

**Агульныя ўвагі.**

Трэба зацеміць, што існаваньне ўжо ад 15 гадоў БСС (закладзены ў 1920 г.), як арганізацыі не падлягаючай ніякім палітычным групам — не дае спакою розным „апякуном“. Як відаць ужо з гэтай хронікі, робяцца спробы „заапекавацца“ у той ці іншы спосаб Союзам, або сеяць там шкодныя фэрмэнты. Для гэтай работы звычайна выкарыстоўваецца благое матар'яльнае палажэньне паасобных сяброў Саюзу.

З усякімі праявамі гэтага БСС заўсёды рашуча змагаўся і будзе змагацца. Саюз існуе з мэтай гуртаваць студэнтаў беларусоў на УСБ у адну сям'ю для супольнага перамаганьня перашкод матар'яльнага і духовага характару ў здабываньні вышэйшай асьветы; для таго, каб прыгатавацца да якнайбольш продуктыўнай працы для сваей бацькаўшчыны і ў меру магчымасьці весьці гэтую працу ўжо. І таму, пакідаючы індывідуальную свабоду сваім сябром у іх палітычных паглядах, Саюз востра змагаецца з накіданьнем паглядаў нейкай палітычнай групы для арганізацыі, як цэласьці. У нас можа быць толькі адзін агульны пагляд, адна ар'ентацыя і адзінае жарала нашага існаваньня — народныя гушчы,

іх патрэбы і імкненьні. А тым, што вядуць работу шкодную беларускаму народу, работу на карысьць чужых — ня можа быць мейсца ў БСС зусім.

Паводле даных квэстуры, на УСБ студыюе 100 беларусоў. З гэтага ліку БСС абымае толькі 50%, рэшта ходзіць пераважна „дзіка“. Галоўная прычына гэтага — адносіны пануючай нацыі да беларусоў.

Саюз ня можа здаволіць матар'яльныя патрэбы сваіх сяброў. На гэта мае толькі мінімальныя сумы. А тымчасам БСС, у параўнаньні з іншымі студэнцкімі арганізацыямі на УСБ, групуе матар'яльна найбяднейшую частку. Грамадзянства на нашыя патрэбы не дае амаль нічога. Здабываем усё сваімі сіламі.

І ня гледзячы на ўсе нягоды нашага жыцьця, на даслоўна вечную барацьбу з холадам і голадам — вытрываем! Вытрываем, каб кончыўшы ўнівэрсытэт, загартаваным, грамадзка дасьпелым, ісьці ў вір жыцьця, у вір змаганьня за свае правы, за правы народу да існаваньня, да разьвіцьця, да розквіту.

---

# Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры У. С. Б. у Вільні.

Т-ва гэтае, заложанае ў пачатку 1931 г., за даволі кароткі час свайго існаваньня выказалася адносна вялікай працай. Мэтай заклад-чыкаў Т-ва было: згуртаваць людзей, якія хочуць паглыбіць свае студыі ў галіне беларусаведы, а таксама вясьці ў гэтым кірунку сыстэматычную навуковую працу. Куратарам Т-ва ад яго закладзінаў зьяўляецца прафэсар У. С. Б. др. Эрвін Кошмідэр.

Навуковая праца Т-ва вядзецца ў сэкцыях, якіх ёсьць чатыры: 1. языкаведная, 2. этнографічная, 3. гістарычна-экономічная і 4. літаратурная. Найбольшую дзейнасьць праяўляюць сэкцыі языкаведная і этнографічная.

Працы сяброў і супрацоўнікаў чытаюцца і агаварываюцца на навуковых зборках Т-ва, якіх у 1934 г. было 14. Чыталася працаў і рэфэратаў у гэтым-жа годзе 16, сярод якіх з языкаведы было 7, з этнографіі 4, з гісторыі 2 і з літаратуры 3.

Т-ва таксама вядзе акцыю зьбіраньня этнографічных і языкаведных матар'ялаў з абшару зямель Заходняй Беларусі. Да гэтай працы Т-ва выдала два апытальнікі: 1. М. Пяцюкевіч. Увагі дзеля запісываньня пахаронных абрадаў і абрадаў памінальных дзён. Вільня 1933 г. і 2. Др. Я. Станкевіч. Апытальнік да запісываньня дыялектычных асаблівасьцяў беларускага языка. Вільня 1935 г. З сабраных гэтак матар'ялаў паўстаў у Т-ве „Збор этнографічных і языкаведных матар'ялаў“, які мае цяпер 18 пазыцыяў з этнографіі (песьні, казкі, абрады, варожбы, вераваньні і г. д.) і 3 пазыцыі з языкаведнай галіны (слоўнікавы матар'ял, географічныя і асабовыя назовы).

У 1934 г. Т-ва прыступіла да арганізацыі сваёй бібліятэкі. Да 24. V. 35 г. бібліятэка мела ўжо 335 тамоў кніжак навуковага і літаратурнага зьместу. На стварэньне бібліятэкі зложыліся галоўным

чынам ахвяры беларускіх культурных арганізацыяў і інстытуцыяў і паасобных грамадзян. Пры бібліятэцы ёсьць таксама рукапісы працаў сяброў Т-ва (10 пазыцыяў), якія дзеля матар'яльных прычын ня могуць быць тымчасам выдрукаваныя.

За загану ў дасюляшняй дзейнасьці Т-ва трэба лічыць выключна гуманістычны кірунак яе працаў, не зьвяртаньне ўвагі на прырадаведныя навукі. Але грэх гэты, гэта грэх усей беларускай інтэлігенцыі. Урад Т-ва зразумеў шкоднасьць гэтай аднабокасьці і ў васеньнім трымэстры ўжо прадбачана некалькі навуковых зборак, прысьвечаных прыродзе, геолёгіі і палеонтолёгіі Беларусі.

Трэба адзначыць, што на беларускай навуковай ніве ў Заходняй Беларусі, — ня гледзячы на многія яшчэ недахопы, — Т-ва ў сучасны мамэнт зьяўляецца найбольш рухлівай арганізацыяй. Дзейнасьць Т-ва часта не абмяжоўваецца мурамі Унівэрсытэту, але дае водгук у шырэйшым грамадзянстве. І так, напрыклад, праца языкаведнай сэкцыі Т-ва „Аб мове віленскай беларускай прэсы“ зьвярнула ўвагу ўсіх на справу разьвіцьця і чысьціні беларускай літаратурнай мовы. Пад уплывам гэтай зборкі група віленскіх беларускіх філёлёгаў, пісьменьнікаў, публіцыстаў, пэдагогаў і інш. пачала ладзіць сыстэматычныя зборкі прысьвечаныя чысьціні літаратурнай мовы. Праца гэтая ўжо пачала даваць позытыўныя вынікі ў форме пастановаў парадкуючых правапіс і хаос нашай мовы.

Трэба зацеміць, што сябры, кончыўшыя ўнівэрсытэт, звычайна ня губляюць лучнасьці з Т-вам, хаця фармальна і ня могуць ужо да яго належыць. І калі Т-ва можа пахваліцца вялікай, адносна да сваіх сіл, працай, дык гэта галоўным чынам дзякуючы супрацоўніцтву сваіх быўшых сяброў.

У зімовым трымэстры 1935 г. на навуковых зборках Т-ва 10. і 17. II. чытаў мгр. Ст. Станкевіч сваю працу: „Беларускі фольклёрыстычны элемэнт у балядах Міцкевіча“. 27. I. 35 г. Т-ва зладзіла экскурсыю ў Этнографічны Музэй У. С. Б., а 27. II. адбыўся Агульны Гадавы Сход, на якім былі выбраныя Ўлады Т-ва на 1935 г. У склад Ураду ўвайшлі: старшыня—Тумаш В., сябры—Мацьвеева Т., Будзьчанка І., Засім П. і Махонька А.; у Рэвізыйную Камісію: старшыня — Войтэнка В., сябры—Шчорс М. і Бурак Яз.

У вясеньнім трымэстры 26. V. 35 г. Др. Я. Станкевіч чытаў „Аб беларускай мове Віленшчыны ў XVI ст.“ 16. VI. 35 г. была апошняя зборка ў гэтым акадэмічным годзе з рэфэратам Др. Я. Станкевіча: „Урадавы і літаратурны язык Вялікага Княства Літоўскага. Памяткі беларускія і ўкраінскія“.

Адрас Т-ва: Koło Przyjaciół Białorusoznawstwa. **Wilno.** Zamkowa 13. Seminarjum slawistyczne. *V.*

## СТУДЭНЦКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

### Справы АБСА.

У гэтым годзе мінаюць дзесятыя ўгодкі існаваньня АБСА (Аб'яднаньне Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў).

Дасюлешняя дзейнасьць АБСА ідзе ў кірунку нутранай самаарганізацыі беларускага студэнцтва і рэпрэзэнтацыі яго на міжнародным форум.

Цэнтраля АБСА знаходзіцца ў Чэхаславаччыне ў Празе.

---

На падставе рэфэрэндума з дня 25. XI. 1934 г. выбраны наступны урад АБСА:

Старшыня — А. Вітушка. віцэстаршыня — Т. Грыб; заграгранічны рэфэрэнт — І. Ермачэнка; сэкратар і скарбнік — А. Калоша.

Вольныя сябры: А. Шкутка (адначасна ўпаўнамочаны прадстаўнік Ураду АБСА ў Нямеччыне), Д. Касмовіч (упаўнамочаны прадстаўнік АБСА ў Бэльгіі).

Рэвізыйная Камісія: М. Манастырскі, П. Астапкевіч і К. Буська.

Ганаровы суд: А. Шах, Т. Клаўсуць і М. Маскалік.

---

З нагоды XVII Зьезду С. І. Е. (Міжнароднай Студэнцкай Конфэдэрацыі), каторы сёлета адбудзецца ў пачатку ліпня ў Чэхаславаччыне, Урад АВСА чарговы нумар свайго „Бюлетэню" выдае ў францускай мове.

### Беларусы на вышэйшых школах у Польшчы.

Колькасьць беларускай моладзі студыюючай у вышэйшых школах Польшчы (унівэрсытэты, політэхнікі, школы спэцыяльныя) здаецца не перавышае лічбы 200. З гэтага 100 асоб студыюе на Віленскім Унівэрсытэце, больш 50 у вышэйшых школах Варшавы і каля 50 у школах іншых местаў. Як бачым, беларусы студэнты складаюць прыблізна толькі 0.5% усіх слухачоў вышэйшых школаў у Польшчы, у той час, калі жыхароў беларускай нацыянальнасьці ў Польшчы ёсьць (згодна з афіцыяльнымі дадзенымі) 4% усей люднасьці. Прычыны такога несправядлівага для нас стану ўсім ведамыя.

### На заграгранічных унівэрсытэтах.

Большыя арганізаваныя асяродкі беларускага студэнцтва заграніцай існуюць: у Рызе (арганізаваны летась); у Коўне (студэнцкая арганізацыя „Аб'яднаньне" — ад 1931); у Бэрліне (Беларускі Студэнцкі Саюз існуе ад 1931 г.); у Льежы (Бэльгія — арганізаваны ў 1930 г.) і ў Празе (Чэхаславаччына). Наймацнейшай арганізацыйна і колькасна ёсьць студэнцкая калёнія ў Празе. Там-жа знаходзіцца і цэнтраля ўсіх беларускіх студэнцкіх арганізацыяў — АБСА. Нале-

жыць да АБСА беларускім студэнцкім арганізацыям у Польшчы недазволіў Польскі Міністар Асьветы (у 1934 г.)

## Экскурсыя на возера Нарач.

На 13 ліпня 1935 г. арганізуецца экскурсыя сяброў і сымпатыкаў БСС на вазёры Нарач, Мястра, Баторын. Зборка 13. VII. а гадз. 17 на рынку ў Новым Мядзеле (перад касьцёлам). Экскурсыя патрывае мінімум 3 дні. Выяжджаць ці выхадзіць з дому трэба ня гледзячы на пагоду, якая будзе ў дзень 13 ліпня.

## Пад новым шыльдам.

На Віленскім Унівэрсытэце паўстала новая студэнцкая арганізацыя пад назовам: Беларускае Студэнцкае Т-ва ім. Фр. Скарыны. Мэтай яго ёсьць арганізаваць астаткі разваліўшайся і ў канцы скасаванай Рэктарам УСБ санацыйнай карпарацыі „Скарыніі". Аб гэтым пішуць, відаць добра паінфармаваныя, „Sprawy Narodowościowe" (№ 5—6, 1934 г.) наступнае:

„W związku z rozwiązaniem przez władze akademickie korporacji białoruskiej „Scorinia", naskutek nielicującego z godnością akademika zachowania się większości członków, zaczęło organizować się obecnie nowe stowarzyszenie im. Fr. Skoryny. Statut tej organizacji, mającej charakter ideowo wychowawczy, został przedłożony władzom uniwersyteckim do zatwierdzenia. Na czele tworzącego się stowarzyszenia stanął A. Müller, czynny działacz T-wa Oświaty Białoruskiej oraz instruktor Straży Przedniej".

---

Наступны 2 (16) нумар „Студ. Думкі" выйдзе ў першым трыместры 1935—1936 акадэмічнага году. У сувязі з гэтым Выдавецтва зьвяртаецца да ўсіх студэнтаў Беларусоў, як у межах так і па-за межамі Польшчы, з просьбай аб прысыланьні матар'ялаў характару грамадзкага, эканамічнага, навуковага, літаратурна-мастацкага, інфармацыяў з жыцьця беларускага студэнцтва і г. д.

Просім слаць рукапісы на адрэс: Вільня, Філярэцкая 22 —2.

---

## На Беларускі Студэнцкі Саюз злажылі:

Грамадзяне м. Сьвержаня і м. Стоўпцаў . . . . . . 23 зл.
Інж. А. Нэканда-Трэпка . . . . . . . . . . . 5 зл.
Др. Сабалеўская—12 падручнікаў і 11 камплетаў мэдычных часапісаў.
Др. Бр. Туронак — 2 мэдычныя падручнікі.

Рэдагуе — Рэдакцыйная Калегія.

Адрэс рэдакцыі — Вільня, Філярэцкая 22 — 2.

Адказны рэдактар-выдавец — М. Якімец.

Друк. Вытв.-Гандл. Коопэратывы Вільня, Троцкая 7.